**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 11 (832) 17 сакавіка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае


liveinternet.ru

**На Беларусь з выраю прыляцелі буслы!**



ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10011

### Пастаўскі раён

# Сталі менеей купляць

■ Чэслаў Якубовіч.

**Яшчэ летась на айчынным спажывецкім рынку намецілася трывожная тэндэнцыя істотнага зніжэння аб'ёмаў рэалізацыі прамысловых і харчовых тавараў.**

У гэтым годзе такія працэсы закранулі і адзін з лепшых у сістэме спажывецкай кааперацыі Беларусі разгалінавы калектыў Пастаўскага райпо, у якім працуе больш 800 работнікаў. Калі раней у раёне яшчэ трымаліся на плыву 323 магазіны розных форм уласнасці, 3 рынкі і 24 кафэ з барамі, то зараз многім з ім прыходзіцца лічыць страты. З пачатку года ў кааператараў розвнічны тавараабарот упаў на 19% да ўзроўню мінулага года. Найбольшае падзенне на 700 млн. рублёў было зафіксавана ў лютым у супермаркеце "Цэнтральны" гандлёвай сеткі "Родны кут", дзе раней штомесяц прадавалі тавараў на 2,5 млрд. рублёў. У перададзеным пастаўчанам падобным універсаме ў Браславе, абсталяваным уласнай выпечкай і міні-кафэ "Хуткасмачна", увогуле за гэты месяц выручка ўпала да 600 млн. рублёў. Адчувальна ўпаў жыццёвы ўзровень і даходы большасці насельніцтва, з-за чаго падаюць аб'ёмы гандлю. На Пастаўшчыне жыхароў глыбінкі абслугоўваюць 10 аўталавак, і ва ўсіх іх сёлета тавараабарот зменшыўся ў 2 разы. Акрамя прадуктаў людзі сталі набываць значна меней, чым раней, і іншых тавараў, стараюцца эканоміць на ўсім. Калі крызіс прадоўжыцца, то падзенне аб'ёмаў гандлю ў канцы года можа перавысіць 200 млрд. рублёў. Праўда, у сферы грамадскага харчавання ўдаецца захоўваць леташні ўзровень прадастаўлення паслуг з-за папулярнасці арганізацый выязных урачыстых і памінальных сталоў.

### Віцебскі раён

# Падараваў дзіцяці ... жыццё

■ Кастусь Александровіч

**Вось ужо сапраўды ў паўсядзённым жыцці ёсць заўсёды месца для подзвігу.**

Уся Еўропа і многія ў свеце днямі даведаліся аб мужным учынку ў Віцебску прапаршчыка міліцыі аднаго з мясцовых аддзелаў Дэпартамента аховы МУС Беларусі Сяргея Баталко. Як ён рашуча дзейнічаў на пешаходным пераездзе паблізу чыгуначнага вакзала пабачылі мільёны людзей на тэлеканале Euronews і ў ролiку ў сетцы Інтэрнэт. У той дзень вартавы правапарадку вяртаўся ў аддзел з нараду, каб здаць табельную зброю. Перад ім крочыў хлопчык 11 гадоў, большасць аўтамабіляў прапусцілі пешаходаў, але адзін мікрааўтобус гэтага не зрабіў. У адно імгненне міліцыянер вырашыў, як трэба дзейнічаць. Ён схапіў дзіця, закрыў яго ад удару аўто, паспеў падскочыць на капот машыны. Пры гэтым сутыкненні мужчына атрымаў моцныя ўшыбы нагі, але віцебскі хлопчык зусім не пацярпеў, не паспеў нават спужацца, хоць са сваім выратавальнікам яны пакаціліся па праезнай частцы дарогі. Дзякуючы рашучым дзеянням чалавека ў форме школьнік Коля Працюк фактычна нарадзіўся ў другі раз, бо на наступны дзень пасля гэтага здарэння ён адсвяткаваў свой 12-ы дзень нараджэння. Адным з першых сустрэліся з героем-міліцыянерам бацькі падлетка і цёпла са слязьмі на вачах падзякавалі яму за выратаванне жыцця іх старэйшага сына. Учынак прапаршчыка будзе адзначаны ў бліжэйшы час камандваннем міліцэйскага ведамства. Дарэчы, гэта – не першы падобны крок выратавання жыцця людзей людзьмі ў пагонах. Апошнім часам супрацоўнікі Дэпартамента аховы МУС выратавалі жыццё двух мужчын: у Сянно пасля спынення сэрца і ў Гарадку, дзе чалавек праваліўся пад лёд.

### Мёрскі раён

# Так і не раскаяўся мярзотнік

■ Станіслаў Раманчук.

**Па рознаму складваюцца цяпер адносіны паміж людзьмі, перыядычна яны становяцца вельмі ўжо варожымі.**

Так здарылася мінулагоднім летам у Мёрскім раёне, дзе ў двары ўласнага дома ў аграгарадку Цвеціна вечарам у прысутнасці жонкі і сына застрэлілі з паляўнічай стрэльбы 57-гадовага егера Дзісненскага лясгаса. Яго маладзейшы на 12 гадоў забойца быў на падпітку і перад гэтым пагражаў забіць спачатку жанчыну, і нават стрэліў над яе галавой. Адносіны ў дзеючых асоб гэтай трагедыі не заладзіліся даўно, яны сталі напружанымі гадоў 15 назад, калі супрацоўнік лясной гаспадаркі злавіў свайго знаёмага падчас крадзяжу дроў з лесу. Мясцовы выпівоха даўно пагражаў гэтай сям'і, што жыццё ў іх не будзе нармальным, а іх сын аднойчы пасля танцаў вернецца дадому інвалідам. Напярэдадні здарэння "стралок" дамовіўся са сваёй жонкай, вартаўніком мясцовай гаспадаркі скрасці з фермы буйнога калгаснага быка шляхам падмены на свайго меншай вагі. У прыцемках гэта тройка правярнула задуманую камбінацыю, але яе сведкам стаў прынцыповы егер. Аб крадзяжы стала вядома міліцыі, а скрадзены бык вярнуўся на сваю ферму. Пакрыўджаны камбінатар тады і рашыўся "разабрацца" са сваім крыўдзіцелем. Настолькі ў забойцы была вялікая нянавісць да пацярпелай сям'і, што ён нават на выязным пасяджэнні абласнога суда ў райцэнтры, глядзеў варожа на суседзяў, зноў пагражаў ім і зусім не перажываў, што загубіў чалавечае жыццё. Аднак, мярзотнік на волю, калі і выйдзе, то праз 25 гадоў адбыцця пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыма.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 17.03.16 | | | | Пятніца 18.03.16 | | | | Субота 19.03.16 | | | | Нядзеля 20.03.16 | | | | Пан. 21.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +1 | +4 | +3 | +2 | 0 | -3 | -4 | -6 | -4 | -4 | -4 | -5 | -4 | -2 | -2 | -3 | -2 | 0 |
| Ціск | 752 | 749 | 745 | 743 | 741 | 739 | 738 | 740 | 742 | 743 | 742 | 744 | 744 | 745 | 744 | 745 | 744 | 743 | 737 |
| Вецер м/сек | 5 С-З | 5 С-З | 8 З | 8 С-З | 7 С-З | 5 С-З | 5 С | 4 С | 5 С-З | 5 С-З | 6 С-З | 3 З | 3 З | 3 С-З | 5 С-З | 2 Ю-З | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 8 Ю-З |
| Вільготнасць | 92 | 95 | 88 | 81 | 82 | 83 | 71 | 85 | 79 | 68 | 48 | 59 | 70 | 71 | 36 | 64 | 80 | 86 | 96 |

# Аб самым надзённым

## НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ГУЧНЫЯ ЗАЯВЫ, АСНОЎНЫЯ СУПЯРЭЧНАСЦІ РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКІХ АДНОСІН ЗАСТАЮЦЦА НЯВЫРАШАНЫМІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Разлічваць, што сітуацыя неяк палепшыцца, не выпадае, бо ў самой Расіі працягваецца рэцэсія, зніжаецца знешні попыт і на беларускія тавары (летась беларускі экспарт у РФ упаў на 32%). Па нас таксама б'е зніжэнне сусветных цэн на нафту, змяншаюцца даходы ад продажу беларускіх нафтапрадуктаў за мяжой.**

У пачатку года сёлета зіма крыху папужала беларусаў, а потым неяк раптам і рана фактычна скончылася. Каляндарная ж вясна пачалася ў краіне як звычайна, ужо каторы месяц для курыльшчыкаў падаражэлі з 1 сакавіка цыгарэты. Перад гэтым у беларускай сталіцы пасля працяглага перапынку праз пяць з нечым гадоў зноў правялі пасяджэнне, як пышна гучыць на рускай мове, "Высшего государственного Совета Союзного государства Беларуси и России". Дагэтуль лідары суседніх краін у падобным фармаце цэлы год не мелі сустрэч, а раней сустракаліся пераважна ў крамлёўскіх кабінетах, хоць і не рэгулярна.

Хоць да нас у Мінск прыляцела цэлая група важнейшых расійскіх дзеячаў, сам гэты саміт прайшоў будзённа і меней чым за гадзіну. Даволі аморфную міждзяржаўную структуру, тым не менш, аб'явілі лакаматывам далейшых інтэграцыйных працэсаў. У адносінах паміж нашымі дзяржавамі па розных прычынах яны сталі яўна прабуксоўваць, бо ўжо трэці год запар падаюць аб'ёмы ўзаемнага расійска-беларускагагандлю.Яшчэгэта сустрэча запомнілася тым, што ў агромістым сталічным Палацы Незалежнасці было даволі холадна, і адна з членаў расійскай дэлегацыі, спікер Савета Федэрацыі В. Мацвіенка, адзела сваю цёплую дарагую футру.

Яшчэ акрэдытаваныя расійскія журналісты расказалі пра казус, калі беларускі лідар неспадзявана назваў Пуціна Дзмітрыем Анатольевічам. Як было афіцыйна адзначана, гэтыя мерапрыемствы насілі стратэгічны і праўдзіва-саюзніцкі характар. З апошнім тэзісам цяжка не пагадзіцца, бо наша краіна для Крамля важная як ваенна-стратэгічны плацдарм падчас распачатага маскоўскімі ястрабамі вострага супрацьстаяння з Захадам. Таксама на гэтым пасяджэнні зацвердзілі праграму ўзгодненых дзеянняў у галіне знешняй палітыкі ў наступныя два гады.

На першы погляд гучыць усё нібыта гладка і прыгожа, але ж гэта не так. Цяпер супраць Беларусі знялі практычна ўсе заходнія санкцыі, а вось супраць нашых суседзяў санкцыі захаваюцца надоўга і могуць яшчэ ўзмацніцца, калі Расія яшчэ больш агрэсіўна павядзе сябе ў Сірыі і на Данбасе. Беларускі лідар адразу пасля завяршэння адпачынку ў Сочы і сустрэчы там з Пуціным заявляў, што суседзі нам дапамогуць пры вырашэнні праблем эканамічнай нестабільнасці. Галоўнае ж для нас пытанне аказання фінансавай дапамогі ў Мінску не абмяркоўвалася, і як потым пацвердзіў Мінфін РФ, дыскусіі наконт выдзялення крэдыту Беларусі прадоўжацца.

Між тым, спецыялісты нагадалі, што паміж Мінскам і Масквой зараз застаюцца яшчэ шэраг даволі вострых нявырашаных праблем узаемаадносін, сярод іх пытанне зніжэння цаны на газ для Беларусі, пытанне паставак у РФ беларускіх нафтапрадуктаў. Таксама ў падвешаным стане застаюцца пытанні якасці і пахаджэння айчынных прадуктаў харчавання пры пастаўках на расійскі рынак, пашырэння рынка грузаперавозак, доступу ў дзяржзакупкі аднаго, ліквідацыі нетарыфных бар'ераў ва ўзаемным гандлі, свабоднага доступу на рынкі працы і да прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў.

Галоўнае ж, што Крэмль не вырашыў агучаную раней задачу па размяшчэнню сваёй авіябазы ў Беларусі і, відавочна, з-за гэтага стаў раптам вельмі скупым на фоне ўласных фінансавых цяжкасцяў і не хоча дапамагчы саюзніку і праз падкантрольны Еўразійскі фонд стабілізацыі. Між тым, зараз патрэбнасць у знешніх крэдытах для нашай краіны вельмі высокая, паколькі сёлета неабходна заплаціць 3,3 млрд. долараў плацяжоў па знешняму доўгу. Айчынныя золатавалютныя рэзервы, як вядома, наадварот, невялікія, перавышаюць крыху больш 4 млрд. з улікам наяўнага золата.

Разлічваць, што сітуацыя неяк палепшыцца, не выпадае, бо ў самой Расіі працягваецца рэцэсія, зніжаецца знешні попыт і на беларускія тавары (летась беларускі экспарт у РФ упаў на 32%). Па нас таксама б'е зніжэнне сусветных цэн на нафту, змяншаюцца даходы ад продажу беларускіх нафтапрадуктаў за мяжой. Нарэшце і даходы саміх беларусаў пачалі імкліва зніжацца, мы па ўзроўню рэальных заробкаў апусціліся на ўзровень 2010 года.

І ў далейшым, як ні горка, фінансавы стан айчынных прадпрыемстваў будзе толькі пагаршацца з-за моцнага "прасоўшага" найперш расійскага рынка. З гэтай нагоды на прайшоўшым саміце ў Мінску прагучалі словы тыпу таго, што неабходна "усилить координацию в обеспечении стабильного роста экономики Союзного государства". Толькі ў гэта чамусьці слаба верыцца, паколькі напрыканцы зімы склады беларускіх заводаў і фабрык зноў перапоўніліся, і там знаходзілася неліквіднай гатовай прадукцыі амаль на 36 трыльёнаў рублёў.

## Дзень за днём

**Пасля паўзы Расія вырашыла даць Беларусі крэдыт праз Еўразійскі фонд, але гэтых сродкаў мала. Сярэднія заробкі беларусаў знізіліся да 300 долараў і сталі аднымі з самых нізкіх у Еўропе. У адносінах кіраўніцтва ЖКГ Беларусі распачалі 17 крымінальных спраў. Польшча адкрыла свае візавыя цэнтры ў Мінску, Брэсце, Гродне і Гомелі. Больш 43 тысяч беларусаў асудзілі летась за крымінальныя злачынствы. Пасля трагедыі ў Барысаве газавікі адключылі 5 тысяч катлоў і калонак па ўсёй краіне. У Беларусі з'явіўся першы долараvы мільярдэр.**

# Важнейшыя навіны свету

**Украіна.** Міжнародныя эксперты ўстанавілі, што ўстаноўку "Бук", якой збілі самалёт над Данецкам, даставілі да граніцы байцы 53-й зенітна-ракетнай брыгады з Курска.

**Англія.** Урад краіны пацвердзіў, што магчымы выхад з ЕС прынясе брытанцам 10 гадоў нестабільнасці і праблемы для АПК, фінансавага сектара, аўтамабілебудавання і людзям.

**ЗША.** Пасля перамогі на праймерызе ў штаце Невада шанцы мільярдэра Дональда Трампа стаць першым у рэспубліканцаў вельмі выраслі, але ён можа прайграць далей дэмакратам.

**Іран.** На выбарах у парламент і ў Савет экспертаў пераканаўчую перамогу атрымалі рэфарматары і ўмераныя кандыдаты, за кансерватараў-ісламістаў галасавала глыбінка.

**Турцыя.** Услед за спыненнем закупак газу ў Туркменістане "Газпрам" на 23% зменшыў пастаўкі паліва па Трансбалканскаму газаправоду з-за спрэчак па цане газу.

**Англія.** Еўропу шакіруе, як заявіла газета "Independent", што 45% рускіх дагэтуль адмаўляюцца прызнаць увесь жах злачынстваў, якія ажыццяўляў дыктатар Сталін.

**Шатландыя.** Шатландская фірма Osdin Shield прадставіла камплекты мэблі на выпадак тэрактаў, якую не прабіваюць кулі, і за якой могуць схавацца людзі ў барах, рэстаранах.

**ЗША.** Упершыню краіна адправіла на экспарт партыю звадкаванага прыроднага газу, каб аслабіць пазіцыі Крамля на еўрапейскім рынку паліва, у далейшым аб'ёмы паставак будуць расці.

**Расія.** Самымі папулярнымі на акцыях памяці Б. Нямцова ў Маскве і іншых гарадах РФ былі лозунгі "Далоў уладу чэкістаў!", "Пуцін, Кадыраў – сорам, вон з Расіі!".

**Польшча.** Кампанія Glaspo Motors дамовілася з мінскім МАЗам аб зборцы на сваім заводзе ў горадзе Плоньск беларускіх аўтобусаў, адпавядаючых стандартам Еўра-6.

**Расія.** Міністр прамысловасці і гандлю РФ Д. Мантураў заявіў, што сталі неактуальнымі перамовы аб стварэнні холдынга КамАЗа з МАЗам, бо акцыянерам стаў "Даймлер".

**Кітай.** З мэтай барацьбы з карупцыяй улады краіны абавязалі членаў КПК праводзіць экалагічна чыстыя пахаванні, забаранілі купляць вялікія магілы і пышныя помнікі.

**Швейцарыя.** Былы 45-гадовы генсакратар УЕФА швейцарац Джані Інфанціна ўзначаліў пасля выбараў сусветную футбольную арганізацыю FIFA, куды ўваходзяць 209 краін.

**ЗША.** Толькі з 6-й спробы знакаміты 41-гадовы акцёр, прадзюсар Леанарда дзі Капрыо атрымаў "Оскар" – прыз за лепшую мужчынскую ролю года ў фільме "Выжыўшы".

**Расія.** З-за крызіса ўрад РФ скараціў на 43 мільярда рублёў расходы ў рэгіёнах на падрыхтоўку чэмпіянату свету па футболе 2018 года, не хапае грошай на стадыёны.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Цану расійскага крэдыту беларусы адчуюць на сваім кашальку



■ БелаПАН

**У 2016–2017 гадах Беларусь павінна абмежаваць расходы рэспубліканскага бюджэту на аплату працы.**

Паводле інфармацыі БелаПАН, такія меры з'яўляюцца ўмовай выдзялення краіне еўразійскага крэдыту, атрыманне якога Мінск канчаткова ўзгадняе з расійскім бокам.

Мяркуецца, што ў 2016 годзе расходы беларускага бюджэту на аплату працы выраступь не больш як на запланаваны ўзровень інфляцыі (12%). Аналагічная ўмова тычыцца 2017 года, калі інфляцыя плануецца на ўзроўні 9%, – адпаведна на гэтую велічыню можа вырасці фонд зарплаты рэспубліканскага бюджэту.

Акрамя таго, паводле інфармацыі БелаПАН, умовай давання еўразійскага крэдыту з'яўляюцца абавязацельствы Беларусі ў сферы тарыфнай палітыкі на платныя паслугі. Гаворка ідзе, у прыватнасці, аб тым, што ўзровень кампенсацыі насельніцтвам кошту жыллёва-камунальных паслуг вырасце ў 2016 годзе да 50% (супраць 30% у 2015-м). У канцы 2017 года, як чакаецца, насельніцтва будзе кампенсаваць 70% кошту жыллёва-камунальных паслуг.

Аналагічныя змены запланаваныя ў дачыненні да транспартных паслуг. Мяркуецца, што да канца 2016 года насельніцтва будзе пакрываць 65% кошту такіх паслуг (супраць 60% у 2015-м) і на 70% кампенсаваць кошт праезду ў грамадскім транспарце ў канцы 2017 года.

Умовай выдзялення еўразійскага крэдыту таксама з'яўляецца лібералізацыя цэн на тавары і паслугі (электрасувязі і паштовай сувязі), якія рэгулююцца дзяржавай.

Як паведамлялася раней, у студзені 2016 года беларускі ўрад ужо прыняў пастанову, што скарачае пералік сацыяльна значных тавараў і паслуг, цэны на якія рэгулюе дзяржава. З пераліку былі выключаныя хлеб, мяса, яйка курынае, малочныя прадукты, дзіцячае харчаванне, асобныя паслугі электрасувязі.

Умовы атрымання крэдыту Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця (ЕФСР) Беларусь узгадняе з Расіяй ужо прыблізна год. З заяўкай на атрыманне стабілізацыйнага крэдыту ў 3 млрд. долараў Беларусь звярнулася ў ЕФСР у сакавіку 2015 года. Пазней падчас перамоў сума крэдыту была зніжаная да 2 млрд. долараў. У лютым 2016 года пасля пасяджэння Вышэйшага дзяржсавета Саюзнай дзяржавы пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў заявіў, што рашэнне аб даванні еўразійскага крэдыту Беларусі «прынятае канчаткова і беспаваротна», і найбліжэйшым часам крэдытная праграма будзе падпісаная.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч заявіў, што правільных лозунгаў шмат, але нічога новага яны эканоміцы не даюць, захоўваецца адміністрацыйна-камандная сістэма.

**Масты.** З санкцыі Генпракуратуры Беларусі арыштавалі за карупцыю главу раёна, за бюджэтныя сродкі ён загадаў райкамунгасу адрамантаваць уласнае жыллё.

**Магілёў.** Вобласць разам з Гомельшчынай сталі "лідарамі" па ўзроўню беспрацоўя 1,3%, знайсці працу цяжка паўсюдна, бо ў краіне ў студзені беспрацоўных прыбавілася на 10%.

**Жлобін.** Калектыў БМЗ устрывожыла, што ўслед за Кітаем Еўракамісіія можа ўвесці антыдэмпінгавыя пошліны і на імпарт металапрадукцыі з Беларусі (летась 500 тыс. тон).

**Гомель.** Пасля 3-х год адсідкі датэрмінова выйшаў на волю пасля двух амністый былы мэр горада В. Піліпец, яго судзілі за продаж пабудаваных кватэр сабе і блізкім людзям.

**Бяроза.** Пасля праверкі Дзяржкантролю на абутковай фабрыцы "Белкельме" з 300 працуючымі распачалі адразу 9 крымінальных спраў за розныя злоўжыванні.

**Маладзечна.** Міліцыя выявіла і ліквідавала ў вёсцы Якімоўшчына буйнейшы ў Беларусі самагонны цэх, дзе за адну гонку выраблялі больш за паўтоны алкагольных напояў.

**Мінск.** Даследчыкі кампаніі Mercer назвалі сталіцу адным з найгоршых для жыцця буйных гарадоў Еўропы (190 месца з 230), а найлепшымі – Вену, Цюрых і Мюнхен.

**Салігорск.** Супраць ураджэнца горада І. Шчукі распачалі крымінальную справу за ўдзел у баявых дзеяннях на Украіне ў складзе баевікоў ДНР, ён паўдзельнічаў і ў захопе Крыма.

**Мінск.** Кіраўнік Рэспубліканскага цэнтра гематалогіі і перасадкі касцявога мозгу А. Ус пацвердзіў, што беларусам па іх фенатыпе найбольш блізкія палякі і немцы.

**Буда-Кашалёва.** Суд пакараў былога дырэктара агратэхкаледжа штрафам у суме 15 млн. рублёў за публічныя зневажальныя выказванні і пагрозы ў адрас адной з педагогаў.

**Гомель.** Аўтапарк папярэдзіў вадзіцеляў і спецыялістаў, што зарплату ім будуць выдаваць у апошні дзень наступнага месяца, хоць за паслугі ЖКГ неабходна разлічыцца да 25-га.

**Светлагорск.** Днём на аўтамабільным мосце ў горадзе святар з прыкметамі алкагольнага ап'янення ўрэзаўся ззаду на Daewoo у Mercedes і адмовіўся ад праходжання медагляду.

**Мінск.** На аўтарскім вечары вядомы расійскі журналіст У. Познер заявіў, што ваш народ, напэўна, задаволены, калі выбірае аднаго і таго ж чалавека, раскрытыкаваў ідэю Пуціна.

**Шклоў.** Да канца года Круглянскай ПМК-266 даручылі дабудаваць шматфункцыянальны Лядовы палац на 315 месц у райцэнтры з міні-басейнам, які пачалі ўзводзіць у 2010 годзе.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На пашыраным пасяджэнні аблвыканкама ў рэжыме відэаканферэнцыі глава вобласці М. Шарстнёў паведаміў аб карэнных зменах структуры пасяўных плошчаў.

**Наваполацк.** Намеснік гендырэктара ААТ "Нафтан" і двое яго падначаленых атрымалі ад камерцыйных структур больш 240 тысяч еўра хабару за заключэнне кантрактаў.

**Орша.** Супраць двух былых кіраўнікоў жылкамгаса распачалі крымінальныя справы за завышаныя больш чым на 6 млрд. рублёў тарыфы ЖКГ па зборы і вывазцы адходаў.

**Полацк.** Абласны канцэрн мясамалпрама абавязаў мясцовы малочны камбінат выдаваць яго работнікам трэць зарплаты прадуктамі харчавання ў фірменных магазінах завода.

**Шаркаўшчына.** У раёне сталі зарабляць меней усіх у Беларусі, у студзені налічылі работнікам у сярэднім па 3,9 млн. рублёў, пасля выплат падаткаў заробкі ўпалі да 169 долараў.

**Лепель.** Прэс-служба Міністэрства абароны пацвердзіла, што падчас вучэбных стрэльбаў супрацьтанкавы снарад упаў на краю палігона паблізу мясцовай школы і казарм часці.

**Обаль.** У музеі патрыятычнай славы мясцовай СШ імя З. Партновай пяцёра маладых супрацоўнікаў, афіцэраў Віцебскай мытні, прынялі прысягу на вернасць Радзіме.

**Полацк.** Мясцовы завод напіткаў і канцэнтратаў пачаў выпуск пад ганддёвай маркай "Бірэллі" 2-х відаў светлага непастэрызаванага піва для ганддёвай сеткі "Дзіксі" (Расія).

**Дуброўна.** Расійскія пагранічнікі не пусцілі на пункце пропуску на сваю тэрыторыю віцяблянку, грамадзянку Украіны, якая 20 гадоў мае від на жыхарства ў Беларусі.

**Віцебск.** Міліцыя пачала пошук на тэрыторыі раёна мярзотніцу-жанчыну, якая парадзіла і пакінула паміраць у сметніку нованароджаную дзяўчыну, яна пражыла меней сутак.

**Полацк.** З-за адсутнасці заказаў на аб'екты будтрэст №22 пакінулі больш 150 работнікаў з паўтысячы працаваўшых, страты выраслі да 15 мільярдаў рублёў, яму пагражае ліквідацыя.

**Браслаў.** На возеры Дрывяты ля раённага цэнтра раніцай праваліўся пад лёд і загінуў 54-гадовы рыбак з вёскі Разета, ён стаў 3-м па ліку ў вобласці тапельцам сёлетняй зімой.

**Наваполацк.** Следчы камітэт завяршыў крымінальную справу супраць двух гараджанак, якія здзейснілі серыю крадзяжоў у старых людзей пад выглядам "сацработнікаў".

**Глыбокае.** У цэнтры традыцыйнай культуры і народнай творчасці пры тэрытарыяльным цэнтры сацабслугоўвання насельніцтва пачаў працаваць новы клуб "У гасцях у бабулі".

**Орша.** Пасля затрымання восенню на вакзале і адсідкі ў СІЗА 26-гадовы баявік "ДНР" І. Яравы зноў апынуўся ў Данбасе і расказаў радыё "Свабода", як там ваююць за грошы РФ.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Арсень Ліс – выдатны вучоны і краязнаўца



**Кліменцій Кожан,**
*краязнаўца, м. Германавічы.*

Арсень Сяргеевіч Ліс – вядомы беларускі фалькларыст, літаратар, краязнаўца. Нарадзіўся ён 4 лютага 1934 года ў вёсцы Вётхава Маладзечанскага павета Віленскага ваяводства (цяпер Смаргонскага раёна, Гродзенскай вобласці) у сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Смаргоні ў 1951 годзе паступіў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1956 годзе загадваў педагагічным кабінетам Шаркоўшчынскага раённага аддзела народнай асветы, адначасова выкладаў беларускую літаратуру ў старэйшых класах Шаркоўшчынскай сярэдняй школы. У 1957-1959 гадах працаваў рэдактарам у



Арсень Ліс.

Дзяржаўным выдавецтве БССР. Пасля вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. З 1962 года малодшы, з 1966 года старшы навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. У 1966 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1967 года – сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Арсень Ліс даследуе беларускі фальклор, літаратуру, краязнаўства, гісторыю друку Заходняй Беларусі, жыццё і дзейнасць дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, гісторыю мастацтва і культуры Беларусі. Ён адзін з укладальнікаў, аўтар уступных артыкулаў і каментарыяў да тамоў акадэмічнага выдання "Беларуская народная творчасць". А. Ліс з'яўляецца ўкладальнікам зборнікаў "Беларускія народныя песні" (1970), "Жніўныя песні" (1974), "Восеньскія і талочныя песні" (1981), "Купальскія і пятроўскія песні" (1985), "Максім Гарэцкі: успаміны, артыкулы, дакументы" (1984), "Браніслаў Тарашкевіч" (1991), "Беларускі фальклор" (1996) і іншыя.

**У 1956 годзе загадваў педагагічным кабінетам Шаркоўшчынскага раённага аддзела народнай асветы, адначасова выкладаў беларускую літаратуру ў старэйшых класах Шаркоўшчынскай сярэдняй школы.**

У друку па пытаннях беларускай культуры А. Ліс пачаў выступаць у 1955 годзе. Выдаў кнігі "Браніслаў Тарашкевіч" (1966), "Мікола Шчакаціхін" (1968), "Пётра Сергіевіч" (1970), "Купальскія песні" (1974), "Пякучай маланкі след" (1981), "Вечны вандроўнік" (1984), "Песню – у спадчыну" (1989), "Валачобныя песні" (1989). У сваіх кнігах Арсень Ліс спалучае навуковы падыход да тэмы з выразнасцю мастацкага пісьма. Арсень Ліс з'яўляецца аўтарам сцэнарыяў дакументальных фільмаў "Песня на ўсё жыццё" (1984), "Прысады жыцця" (пра М.І. Гарэцкага, з А.Вялюгіным, 1985), "Зямля Тарашкевіча" (з Ю.В.Лысятавым, 1991), "Аркадзь Смоліч", "Дзядзька Уласаў" (абодва ў 1992), "Адвечныя званы" (пра М.В.Доўнар-Запольскага, 1993).

Арсень Ліс – лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1986 года за ўдзел у падрыхтоўцы і выданні акадэмічнага збору беларускай народнай творчасці. У 1997 годзе стаў доктарам філалагічных навук. Ён адзін з аўтараў вучэбнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ "Беларуская народна-паэтычная творчасць".

У пачатку лютага гэтага года Арсеню Сяргеевічу Лісу споўнілася 82 гады. У газеце "Наша слова" №6 (1261) 10 лютага 2016 года надрукаваны "Аўтабіяграфічны нарыс Арсеня Ліса", з якога цікаўныя чытачы, і найперш настаўнікі, выкладчыкі беларускай літаратуры ВНУ знойдуць для сябе шмат карыснага матэрыялу. Хочацца пажадаць Арсеню Сяргеевічу Лісу моцнага здароўя, натхнення і плёну ў далейшай навуковай і грамадскай дзейнасці.







## Жыхар Мёраў захоўваў дома рарытэтны маўзер

Міліцыя канфіскавала ў жыхара Мёраў карабін сістэмы Маўзера ўзору 1898 года, паведаміў карэспандэнту БелТА інспектар аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Віцебскага аблвыканкама Віталь Сапроненка. Супрацоўнікі 7-га ўпраўлення ГУБАПІК МУС падчас аператыўна-разыскных мерапрыемстваў у доме работніка прадпрыемства ЖКГ Мёрскага раёна 1963 года нараджэння выявілі і канфіскавалі карабін сістэмы Маўзера без нумара, узору 1898 года, калібра 7,92 мм. Па заключэнні экспертаў, зброя ў спраўным стане. Раённы аддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу па ч.2 арт.295 КК Беларусі.



*Алена Ціханава - БЕЛТА*

## Пенсіянер з Бягомля захоўваў дома 109 патронаў

Пенсіянер з Бягомля захоўваў дома 109 патронаў рознага калібра, паведамілі БелТА ў Міністэрстве ўнутраных спраў Беларусі. Боепрыпасы былі выяўлены праваахоўнікамі 6 лютага па месцы жыхарства мужчыны 1949 года нараджэння. Цяпер Докшыцкі раённы аддзел Следчага камітэта Беларусі ўзбудзіў у адносінах жыхара Бягомля крымінальную справу па ч. 2 арт. 295 КК Беларусі (незаконныя дзеянні ў адносінах агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў).

*БелТА.*

## Жыхар Лепеля захоўваў у сябе кулямёт

Міліцыя канфіскавала ў жыхара Лепеля кулямёт Дзегцярова, паведамілі БЕЛТА ў МУС Беларусі. Мужчына нідзе не працуе, раней быў асуджаны за крадзеж. У адносінах да яго ўпраўленне Следчага камітэта па Віцебскай вобласці ўзбудзіла крымінальную справу па ч. 2 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў)



*БелТА*

# Да 100-годдзя з дня выхаду газеты "Гоман"

■ **Кліменцій Кожан,**
*краязнаўца, м. Германавічы.*

Нядаўна споўнілася 100 гадоў з дня выхаду беларускай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Homan" ("Гоман") нацыянальна-дэмакратычнага накірунку. Газета выдавалася з 15(28) лютага 1916 года да канца 1918 года ў Вільні на беларускай мове з дазволу акупацыйных германскіх улад. Выходзіла два разы на тыдзень лацінкай і кірыліцай (з 01.09.1916г). Рэдактарамі газеты былі Вацлаў Ластоўскі і Я.Салавей (з №33(125), 1917г.)

Сацыяльна-палітычная праграма газеты набліжалася да сялянска-работніцкага сацыялізму: народаўладдзе, ліквідацыя эксплуатацыі наёмных работнікаў, ідэя кіравання грамадствам праз "усялякія таварыствы, кааператывы, прафесіянальныя работніцкія хаўрусы". Газета выступала за нацыянальна-культурнае адзінства беларускага народа, незалежную Беларускую рэспубліку, якая магла б уваходзіць на канфедэратыўнай аснове ў адроджанае Вялікае Княства Літоўскае. Газета інфармавала пра сацыяльныя і нацыянальныя супярэчнасці, унутранае і міжнароднае становішча краю, вітала звяржэнне самадзяржаўя ў Расіі і нацыянальнае самавызначэнне народаў. Найвышэйшымі каштоўнасцямі вольнага грамадства лічыліся нацыянальная незалежнасць, інтэлектуальная і палітычная свабода, родная мова і культура, сацыяльны аптымізм і хрысціянская вера.

**Рэдактарамі газеты "Homan" ("Гоман") былі Вацлаў Ластоўскі і Я.Салавей (з №33 (125), 1917 г.)**

Газета надрукавала шэраг артыкулаў, нарысаў, іншых матэрыялаў па гісторыі і культуры Беларусі, у тым ліку, артыкул па гісторыі беларускага друку, пра Біблію Ф. Скарыны, рэфармацыйны рух на Беларусі, прычыны заняпаду беларускага адраджэння ў XIX стагоддзі. Вельмі цікавыя артыкулы "Абычаёвае права беларускага сялянства" В.Ластоўскага, "Святы Іазафат Кунцэвіч" Баляслава Пачопкі, "10-летні юбілей беларускай прэсы", "Разбітая традыцыя" (пра неабходнасць адраджэння Беларуска-літоўскай дзяржавы) А.Луцкевіча (пад псеўданімам І.Мялешка), "Што было і што павінна быць" (пра традыцыі ВКЛ) Пётры з Арлянят. Шэраг артыкулаў былі прысвечаны актуальным сацыяльна-палітычным праблемам: "Што такое дэмакратызм" і "Шляхам творчасці" В. Ластоўскага, "Нашы патрэбы", "Палажэнне работнікаў", "Новы клас", "Фальшывыя прыяцелі", "Да дзяржаўнай еднасці", "Да родных ніў", "Места і вёска" А.Луцкевіча, "Хто ты гэткі?" Ф.Аляхновіча і іншыя.


№ 83 (279) Rasgdbe A.

HOMAN

Biełaruskaja Wilenskaja časopiś

№ 83 (279). Hod III. Wilnia. 22 kastryčnika 1916 h. Cena 10 fen. (5 kap.)

Dola našaha kraju.

Stanowkoje upraulеńnie.

Palonny kraj.

У газеце асвятлялася дзейнасць Дзяржаўнай думы Расіі, пераважна выступленні эсэраў і сацыял-дэмакратаў меншавіцкага кірунку. Газета друкавала інфармацыю з франтоў, паведамленні германскага генеральнага штаба. Меліся рубрыкі: "У Вільні і ваколіцах", "З усяго свету", "З усяго краю", "Весткі з Расіі" і іншыя. У газеце друкаваліся тэлеграмы, абвесткі беларускіх кнігарняў, камерцыйная рэклама. Газета надрукавала разнастайныя матэрыялы па гісторыі нацыянальна-культурнага і літаратурнага руху, легенды, апрацаваныя Я.Баршчэўскім, мемуары А.Абуховіча. Упершыню газета апублікавала некаторыя творы Я.Коласа, М.Багдановіча, З. Бядулі, А.Гаруна, Ц.Гартнага, А.Гурло, даследаванні М.Нікіфароўскага, літаратурна-крытычныя нарысы А.Луцкевіча (пад псеўданімам А.Навіна).

Газета "Гоман" – важная крыніца нашых ведаў па гісторыі Бацькаўшчыны.

# Аб захаванні мер электрабяспекі пры ажыццяўленні рыбнай лоўлі

**Глыбоцкае МРА філіяла «Энерганагляд» інфармуе, што нягледзячы на прынятыя меры прафілактычнага, тлумачальнага і арганізацыйнага характару па прадухіленні няшчасных выпадкаў, звязаных з паражэннем людзей электрычным токам, у краіне працягваюць мець месца выпадкі электратраўматызму пры ажыццяўленні рыбнай лоўлі паблізу паветраных ліній электраперадач.**

■ **А. Крывёнак**, *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Так, 16 чэрвеня 2014 года ў г. Гомелі пры перамяшчэнні групы рыбакоў уздоўж высакавольтнай паветранай лініі напружаннем 10000 Вольт, якая праходзіць каля возера ў раёне вуліцы Федзюнінскага, адзін з рыбакоў наблізіўся раскладзеным вудаўём, вырабленым з вугляпластыку, да ўчастку неізаляванага провада і атрымаў электратраўмы. Таварышамі, якія былі з ім, ён быў дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне бліжэйшай бальніцы, дзе яму была аказаная першая медыцынская дапамога і ў далейшым канстатавана смерць.

7 чэрвеня 2015 года ў 7 гадзін 36 хвілін двое братоў, жыхароў г. Мінска, 1985 і 1989 года нараджэння, ажыццяўлялі лоўлю рыбы паблізу н.п. Скамарошкі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці з надзіманай гумовай лодкі ў 20 метрах ад берага пад правадамі ВЛ-110кВ «Стоўбцы-Залужжа», якая перасякае возера ў пралёце апор №№ 59-60. Пры набліжэнні вуды на недапушчальную адлегласць да правадоў ВЛ-110кВ адбылося паражэнне электрычным токам мужчын, што знаходзіліся ў лодцы. Відавочцамі няшчаснага выпадку была выкліканая брыгада хуткай дапамогі, якая даставіла пацярпелых у ЦРБ г. Стоўбцы.

У гэты ж дзень (7 чэрвеня 2015 г.) каля 20 гадзін 30 хвілін двое мужчын адправіліся на рыбалку на раку Шчара непадалёк ад вёскі Федзюкі Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Адзін з мужчын, 1982 года нараджэння, жыхар н.п. Русіна Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, выбраў месца для лоўлі рыбы на аўтамабільным мосце, уздоўж якога праходзіць ВЛ-10кВ. Падчас закіду вуды адбыўся дотык вудаўя з фазным провадам ВЛ-10кВ, і пацярпелы атрымаў паражэнне электрычным токам. Відавочцамі няшчаснага выпадку была выклікана брыгада хуткай дапамогі, медыцынскія работнікі якой канстатавалі смерць пацярпелага. У выніку няшчаснага выпадку без бацькі засталіся двое непаўналетніх дзяцей.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, звязаных з паражэннем электрычным токам, пры ажыццяўленні рыбнай лоўлі Глыбоцкае міжраённае аддзяленне філіяла «Энерганагляд» заклікае да выканання ўсіх мер бяспекі паблізу праходжання паветраных ліній электраперадач, а таксама нагадвае, што **забараняецца**:

■ набліжацца на недапушчальную адлегласць да токаводных частак і залазіць на апоры паветраных ліній электраперадач;

■ кідаць дрот, металічныя прадметы на правады паветраных ліній;

■ запускаць папяровых змеяў паблізу ліній электраперадач;

■ ладзіць рухомыя гульні, лагеры, разводзіць вогнішчы пад правадамі ліній электраперадачы;

■ разбіваць ізалятары на апорах ліній электраперадач;

■ лоўлю рыбы ў ахоўных зонах паветраных ліній электраперадач.

Што такое ахоўная зона паветраных ліній электраперадачы: зона ўздоўж лініі ў выглядзе зямельнага ўчастка і паветранай прасторы, абмежаваная вертыкальнымі плоскасцямі, адлеглымі па абодва бакі лініі ад крайніх правадоў пры неадхіленым іх становішчы на адлегласці:

2м – для паветранай лініі электраперадачы да1кВ;

10м – для паветранай лініі электраперадачы 6-10 кВ;

15м – для паветранай лініі электраперадачы 20-35кВ;

20м – для паветранай лініі электраперадачы 110кВ;

25м – для паветранай лініі электраперадачы 220кВ;

30м – для паветранай лініі электраперадачы 330кВ;

40м – для паветранай лініі электраперадачы 750кВ;

У Глыбоцкім раёне перадача электраэнергіі ажыццяўляецца па лініях напружаннем: 0,4 кВ, 10 кВ, 35 кВ, 110 кВ, 330 кВ.

У цяперашні час у рыбалоўных крамах вобласці можна набыць вудачкі даўжынёй да 12 метраў, якія вырабляюцца з вугляпластыку, які праводзіць электрычны ток. На вудоўях маюцца папераджальныя знакі, якія забараняюць лоўлю рыбы побач і пад лініямі электраперадачы высокага напружання, а таксама пры навальніцы. Пагроза паражэння электрычным токам узнікае не толькі пры непасрэдным кантакце з правадамі паветраных ліній, але і пры набліжэнні да іх на недапушчальную адлегласць.

Неабходна заўсёды памятаць, што веданне і выкананне правілаў электрабяспекі захавае жыццё Вам і Вашым блізкім.



# Не парушайце грамадскі парадак, паважайце адзін аднаго!

**Апошні час на тэрыторыі Віцебскай вобласці адзначаецца рост хуліганстваў у грамадскіх месцах. Так, у 2015 годзе зарэгістравана 225 злачынстваў гэтага віду, 5 з якіх на тэрыторыі Глыбоцкага раёна.**

■ **Аляксандр Гігола**, *намеснік начальніка ААПП Глыбоцкага РАУС*

Грамадзянін вёскі Зарубіна22.04.2015 года, знаходзячыся ў грамадскім месцы, з хуліганскіх меркаванняў груба парушыў грамадскі парадак, выказваючы відавочную непавагу да грамадства, наўмысна пашкодзіў 11 рашотчастых панэляў жалезабетоннага плота. Рашэннем раённага суда прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, асуджаны да штрафу ў памеры 9.900.000 рублёў і грамадскіх работ на 120 гадзін.

Грамадзянін Б. у перыяд часу з 20 гадзін з 1 жніўня 2015 года да 2 гадзін 1 верасня наўмысна пашкодзіў лакафарбавае пакрыццё 6 аўтамашын, што стаялі ў двары дома па вул.Леніна ў г. Глыбокае. Рашэннем раённага суда прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, асуджаны да штрафу ў памеры 10.500.000 рублёў.

Неўсталяваная асоба ў перыяд часу з 0 гадзін 30 хвілін да першай гадзіны 19 чэрвеня 2015 года з хуліганскіх меркаванняў, наўмысна разбіў шкло ў аконных рамах шэрагу кватэр па вуліцы Леніна ў Глыбокім. Грамадзянін Л. сумесна з грамадзянінам Д., быў у стане алкагольнага ап'янення, знаходзячыся ў грамадскім месцы, на набярэжнай возера Катальнае ў Глыбокім груба парушылі грамадскі парадак. Наўмысна, беспрычынна збілі жыхара Глыбокага, чым прычынілі апошняму пашкоджанні, што адносяцца да катэгорыі лёгкіх цялесных пашкоджанняў, якія не пацягнулі за сабой кароткачасовае расстройства здароўя. Рашэннем раённага суда абодва прыцягнуты да крымінальнай адказнасці і асуджаны, адзін з іх накіраваны ў месца пазбаўлення волі тэрмінам на 1 год і 2 месяцы.

У 2016 годзе ў Віцебскай вобласці ўчынена ўжо 44 хуліганствы, у Глыбоцкім раёне злачынстваў дадзенай катэгорыі не зарэгістравана. Асобы, якія ўчыняюць хуліганскія дзеянні, могуць быць прыцягнуты да адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці.

**Дробнае хуліганства. Артыкул 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь.**

Нецэнзурная лаянка ў грамадскім месцы, абразлівае прыставанне да грамадзянаў і іншыя наўмысныя дзеянні, якія парушаюць грамадскі парадак, дзейнасць арганізацый або спакой грамадзян і выражаюцца ў відавочнай непавазе да грамадства, –

цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад двух да трыццаці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

**Хуліганства. Артыкул 339 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь**

1. Наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак і выказваюць відавочную непавагу да грамадства, што суправаджаюцца ўжываннем гвалту, або пагрозай яго прымянення або знішчэннем, або пашкоджаннем чужой маёмасці, альбо адрозніваюцца па сваім змесце выключным цынізмам (хуліганства), –

караюцца грамадскімі працамі, або штрафам, або папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, або арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, або пазбаўленнем волі на тэрмін да трох гадоў.

2. Хуліганства, учыненае паўторна, альбо групай асоб, альбо звязанае з супрацівам асобе, якая спыняе хуліганскія дзеянні, альбо спалучанае з прычыненнем менш цяжкага цялеснага пашкоджання (злоснае хуліганства), –

караюцца арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да трох гадоў, або пазбаўленнем волі на тэрмін ад аднаго года да шасці гадоў.

3. Дзеянні, прадугледжаныя часткамі першай або другой гэтага артыкула, учыненыя з прымяненнем зброі, іншых прадметаў, якія выкарыстоўваюцца ў якасці зброі для прычынення цялесных пашкоджанняў, ужываннем выбуховых рэчываў або выбуховых прылад альбо ўчыненыя з пагрозай іх ужывання, пры адсутнасці прыкмет больш цяжкага злачынства (асабліва злоснае хуліганства) –

караюцца абмежаваннем волі на тэрмін ад трох да пяці год або пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў.

***

**Паважаныя жыхары Глыбоцкага раёна, не парушайце грамадскі парадак, паважайце адзін аднаго!**

# Толькі разам мы зможам паставіць надзейны заслон браканьерам

**Як толькі вясна ўступіла ў свае правы, у прыродзе ўсё ажыло, прыляцелі першыя вясновыя птушкі, звяры ўжо вывелі дзіцянят, рыба пачала нераст. У гэты перыяд на тэрыторыі ўсёй краіны Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ўведзеныя пэўныя абмежаванні і забароны на прамысловую і аматарскую лоўлю.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Вылаў усіх відаў рыбы на тэрыторыі Віцебскай вобласці забараняецца з 10 красавіка па 8 чэрвеня, за выключэннем аматарскага рыбалоўства, якое ажыццяўляецца адной вудай з адным кручком, або адным спінінгам, у светлы час сутак з берага без заходу ў ваду, са штучных збудаванняў. У названы перыяд часу ўводзяцца асобныя абмежаванні толькі на перыяд нерасту, напрыклад – выкарыстанне грамадзянамі маламерных судоў, лоўля рыбы толькі адной вудай і толькі з берага, без заходу ў ваду.

У перыяд забароны і нерасту рыбы шкода за незаконна здабытую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры яе кошту. Так, кошт адной асобіны шчупака незалежна ад яго памеру складае ў перыяд забароны 1 млн.890 тыс. рублёў.

Як паказала практыка мінулых гадоў, у перыяд вясновага нерасту рыбы актывізуюцца браканьеры. Карыстаючыся тым, што рыба ў дадзены перыяд часу актыўная, не вельмі асцярожная, у сувязі з нерастаннем, браканьеры рознымі варварскімі спосабамі спрабуюць налавіць яе больш, не думаючы пра наступствы.

Знаходжанне грамадзян з забароненымі прыладамі рыбалоўства (сеткамі, восцямі, нератамі і г.д.) у рыбалоўных угоддзях гэтак жа цягне адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу да 30 базавых велічынь, сам факт здабычы рыбы гэтымі снасцямі не абавязковы, тлумачэнне асобных хітрых грамадзян, што забароненую снасць ён знайшоў на беразе, законам не прымаецца.

Штогод у перыяд вясновага нерасту супрацоўнікі інспекцыі і міліцыі затрымліваюць дзясяткі, а па краіне тысячы браканьераў, але, на жаль, прага нажывы, жаданне забіць бездапаможную рыбіну мацней.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслійнага свету заклікае грамадзян актыўна дапамагаць супрацоўнікам інспекцыі ў спыненні фактаў браканьерства, бо толькі з вашай дапамогай, неабыякавых да нашай прыроды людзей мы зможам паставіць надзейны заслон браканьерам. **Людзі, не будзьце абыякавымі да браканьераў, беражыце прыроду.**

Мы заўсёды гатовыя да супрацоўніцтва. **Тэлефоны "гарачай лініі" кругласутачна: 8-02156-2-86-70, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).**

Будзем удзячныя за любую дапамогу ў ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны.



**Затрыманыя браканьеры ў Пінскім раёне.** *Фота з сайта інспекцыі.*

# Строгае выкананне правіл бяспекі – аснова ўдалага палявання

**Паляванне – адно з самых старажытных і любімых захапленняў людзей. У старажытныя часы людзі палявалі, каб здабыць сабе пражытак, але з цягам часу паляванне паступова змяняецца.**

■ **Валерый Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і раслійнага свету*

Шмат хто з паляўнічых разглядае паляванне не як падставу здабычы дзікага звера, а хутчэй як спаборніцтва, хто каго перахітрыць, адрэналін б'е праз край. Такім паляўнічым трэба не мяса, а сапраўдны трафей.

У сакавіку месяцы на тэрыторыі краіны дазволена паляванне на дзіка з засады, з вышкі, з падыходу, на ваўка, лісіцу звычайную, сабаку янотападобнага, баклана вялікага, чаплю шэрую, варону шэрую, сароку. З другой суботы сакавіка дазволена паляванне на гуся – шэрага, белалобага і гуменніцу па другую нядзелю траўня. У паляванні на гэту дзічыну таксама ёсць асаблівасці. Паляванне дапускаецца толькі ў светлы час сутак, раніцай альбо ўвечары, зброя павінна быць набіта толькі шротавымі патронамі (5,25 мм – гэта карцеч і яе прымяненне забаронена), ужываць зброю ў перыяд часу з 11 да 18 гадзін забаронена. Спосаб палявання – ружэйны з засады (скрадку), г.зн., павінна быць абсталявана схаванае месца палявання (сховішча, маскіровачная сетка, будан і г.д.).

Хацелася б нагадаць паляўнічым аб захаванні правіл бяспекі палявання, бо гэта аснова захавання жыцця і здароўя людзей.

Так, правіламі бяспекі забараняецца:

■ страляць на шум, шоргат, па няяснабачнай цэлі, у тумане, у моцны снегапад, супраць сонца і пры іншых умовах дрэннай бачнасці;

■ страляць і знаходзіцца з зараджанай паляўнічай стрэльбай на адлегласці менш за 200 метраў ад крайняга будынка населенага пункта;

■ страляць у напрамку людзей, населеных пунктаў, сельскагаспадарчых жывёл, транспартных сродкаў з гладкаствольнай паляўнічай зброі на адлегласці менш за 500 метраў, з агнястрэльнай зброі з наразным ствалом – не менш за 2 кіламетры;

■ дабіваць прыкладам раненага звера і шмат чаго іншага.

Строгае выкананне правіл бяспекі – аснова ўдалага палявання.

Хацелася б яшчэ раз звярнуцца да рыбаловаў-аматараў і нагадаць, што з 10 красавіка па 8 чэрвеня на тэрыторыі Віцебскай вобласці дзейнічаюць абмежаванні і забароны на лоўлю асноўных відаў рыбы.

Лоўлю шчупака звычайнага забаронена з 9 сакавіка па 25 красавіка ўсімі відамі рыбалоўных прыладаў, іншымі прыладамі (рукамі, мяшкамі, сеткамі і г.д.), спосабамі.

Лоўля рыбы з 10 красавіка дазволена толькі адной вудай ці спінінгам, аснашчаных адным кручком, трайным, двайным ці адзінарным з берага (без заходу ў ваду) альбо з лёду, са штучных збудаванняў у светлы час сутак. Парушальнікі будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці, штраф ад 20 да 50 базавых велічынь.

Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі выказваюць вялікую ўдзячнасць грамадзянам, што аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

**Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-28670 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# У Глыбоцкім раёне за няпоўных два месяцы 2016 года на пажарах загінула 5 чалавек




**Так, першы пажар з гібеллю двух чалавек адбыўся 9 студзеня ў жылым доме ў в. Кішы Падсвільскага сельскага савета, дзе загінуў сам гаспадар і яго госць.**

■ **О. Салодкі,** *інспектар групы прапаганды і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Глыбоцкага РАНС*

Другі пажар з гібеллю адбыўся 5 сакавіка ў жылым доме ў в. Воранава Падсвільскага сельскага савета, дзе ратавальнікі знайшлі целы гаспадыні хаты і яе сына.

Яшчэ адзін пажар адбыўся 9 сакавіка ў жылым доме ў в. Чарневічы Празароцкага сельскага савета, дзе таксама быў знойдзены загінулы чалавек.

Пры апытанні суседзяў і жыхароў вёсак, падчас правядзення аператыўных следчых дзеянняў, было ўстаноўлена, што ва ўсіх выпадках трагедый, напярэдадні ў жылых дамах адбывалася распіццё спіртных напояў. Варта разумець, што чалавек, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, не можа адэкватна ўспрымаць навакольную рэальнасць і адпаведным чынам рэагаваць на існуючую пагрозу. Як паказвае статыстыка, прыкладна 90% загінулых людзей на пажарах, знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Як рэкамендацыю тут можна сказаць, што калі чалавек не можа адмовіцца ад згубных звычак – курэння і ўжывання спіртнога ў непрымальных дозах, то неабходна проста выключыць магчымасць курэння ў жылых памяшканнях. Таксама рэкамендуецца ўсталяваць аўтаномны пажарны апавяшчальнік, які зможа падаць сігнал аб задымленні і абудзіць спячага чалавека, акрамя таго, дома неабходна мець першасныя сродкі пажаратушэння.

Акрамя таго, не варта забываць і пра іншыя магчымыя прычыны пажараў, таму неабходна захоўваць патрабаванні па эксплуатацыі і мантажы электраабсталявання, ацяпляльных прыбораў і газавага абсталявання.

**Беражыце сябе, сваіх блізкіх і сваю маёмасць – не грэбуйце правіламі пажарнай бяспекі.**

## МНС інфармуе
**на 15.03.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 141;
Гібель людзей – 30, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 4;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Двое мужчын прагулялі па 9-13 млн. “пад’ёмных”, якія атрымалі пры пераездзе на працу ў Глыбоцкі раён

Памочнік пракурора Глыбоцкага раёна Міхаіл Кучэрын распавёў карэспандэнту:

*– А. – жыхар Пастаўскага раёна, К. родам з Маладзечна. Абодва былі зарэгістраваныя па месцы жыхарства як беспрацоўныя. Летась ім прапанавалі вакансіі працоўных у ААТ “Залатая падкова” ў Глыбокім раёне. Пры перасяленні на новае месца жыхарства ім выплацілі ў якасці матэрыяльнай дапамогі 13 і 9 млн. рублёў адпаведна. Атрымліваючы “пад’ёмныя”, мужчыны абавязаліся не звальняцца з прадпрыемства на працягу года і добрасумленна працаваць*, – растлумачыў Міхаіл Кучэрын. – *А ў выпадку звальнення ці невыканання сваіх абавязкаў – вярнуць выплачаныя “пад’ёмныя”, а таксама заплаціць штраф ААТ “Залатая падкова”. Што і адбылося з А. і К.*

Па словах памочніка пракурора Глыбоцкага раёна, уладкаваўшыся на прадпрыемства працоўнымі, мужчыны патрацілі атрыманую матдапамогу і неўзабаве сталі прагульваць працу. У агульнай складанасці колькасць прагулаў-дзён склала больш за месяц. У выніку, за парушэнне працоўнай дысцыпліны мужчын звольнілі.

Па дамове яны мусілі вярнуць прадпрыемству атрыманыя “пад’ёмныя”, а таксама заплаціць штраф у памеры пяцікратнай велічыні бюджэту пражытковага мінімуму (гэта каля 7,8 і 6,9 млн. рублёў адпаведна). У добраахвотным парадку ўрон прадпрыемству яны не пакрылі, на суд не з’явіліся.

Як адзначыў Міхаіл Кучэрын, пракуратура Глыбоцкага раёна ў інтарэсах ААТ “Залатая падкова” падала іск аб спагнанні з мужчын 21 і 16 млн. рублёў адпаведна.

У снежні 2015 года суд задаволіў іскавыя заявы ў поўным аб’ёме, а таксама спагнаў з А. і К. дзяржмыту ў памеры 5% ад кошту пазову (ад 21 і 16 млн. рублёў адпаведна).

Па інфармацыі памочніка пракурора Глыбоцкага раёна, урон мужчыны дагэтуль не пакрылі, у цяперашні час іх адшуквае судовы выканавец.

***Юлія Лахвіч**, kraj.by*

# Злодзеі за 3 дні прагулялі буйную суму, выкрадзеную ў сельскай бізнасвумэн у Докшыцкім раёне

**Міліцыя вобласці затрымала падазраваных у буйным крадзяжы з дома прадпрымальніцы ў гарадскім пасёлку Бягомль Докшыцкага раёна. Аб гэтым паведаміў у Полацку першы намміністра ўнутраных спраў Валянцін Міхневіч перад нарадай кіраўнікоў крымінальнай міліцыі Беларусі і крымінальнай паліцыі Латвіі.**

Бізнесвумэн з Докшыцкага раёна пазбавілася больш за 300 млн рублёў у валютным эквіваленце, пакуль адлучылася з хаты. Прадавец адзення ў краме сэканд-хэнда падала заяву ў міліцыю адразу, як выявіла згубу – 22 студзеня. Пакуль яе з мужам не было, злачынец адціснуў уваходныя дзверы прыватнага дома і выкраў са схованак па ўсёй кватэры 9 тысяч еўра, 3,7 тысячы даляраў, 12 тысяч расійскіх і 15 млн беларускіх рублёў. У доме не было сігналізацыі.

Раённы аддзел Следчага камітэту ўзбудзіў крымінальную справу па ч. 4 арт. 205 КК (Крадзеж у асоба буйным памеры). Надоечы па падазрэнню ў здзяйсненні гэтага злачынства затрымалі двух маладых жыхароў Полацкага раёна.

Міліцыянеры выйшлі на іх у выніку праверкі інфармацыі аб групе хлопцаў, якія нядаўна выйшлі з месцаў пазбаўлення волі і смецілі грашыма незразумелага паходжання. Падазраваныя пад арыштам. Вядзецца дасудовае расследаванне крымінальнай справы.

*“Здзіўляе, як людзі распараджаюцца тым, што здабываюць злачынным шляхам. Прагуляць за тры дні такую суму – гэта лад жыцця. Ён іх уцягвае, яны па-іншаму сябе не бачаць. Успамінаюцца словы з добрага савецкага фільма: “Выкраў, выпіў – у турму”. Гэта прыкладны лад жыцця затрыманых і ім падобных датуль, пакуль атрымоўваецца хавацца”*, – пракаментаваў Валянцін Міхневіч.

***БЕЛТА***

# Мінадукацыі зацвердзіла мінімальныя балы ЦТ, неабходныя для падачы дакументаў у ВНУ

**Міністэрства адукацыі Беларусі зацвердзіла мінімальныя балы, якія неабходна набраць абітурыентам на цэнтралізаваным тэставанні для наступнай падачы дакументаў у ВНУ. Адпаведная пастанова ведамства №11 ад 3 сакавіка апублікавана на Нацыянальным праваым інтэрнэт-партале.**

Так, беларускую або рускую мову ўсім абітурыентам неабходна здаць не менш чым на 10 балаў (па 100-бальнай шкале), а тым, хто паступае на спецыяльнасці “Беларуская мова і літаратура”, “Руская мова і літаратура”, “Беларуская мова і літаратура. Замежная мова (з указаннем мовы)”,”Руская мова і літаратура. Замежная мова (з указаннем мовы)”,”Беларуская філалогія (па напрамках)”,”Руская філалогія (па напрамках)”,”Славянская філалогія”, – не менш чым на 20 балаў.

Матэматыку, фізіку, хімію і біялогію, калі яны з’яўляюцца першымі профільнымі прадметамі, неабходна здаць мінімум на 15 балаў, гісторыю Беларусі, сусветную гісторыю найноўшага часу, грамадазнаўства, геаграфію і замежныя мовы – мінімум на 20 балаў.

Калі прадмет лічыцца другім профільным, то тэст па матэматыцы, фізіцы, хіміі і біялогіі неабходна здаць не менш чым на 10 балаў, па гісторыі Беларусі, сусветнай гісторыі найноўшага часу, грамадазнаўству, геаграфіі і замежных мовах – на 15 балаў.

Асобна мінімальныя балы ўстаноўленыя для ваенных факультэтаў, ВНУ, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні Міністэрства абароны, МНС і Дзяржпагранкамітэта, для месцаў, якія засталіся вольнымі пасля асноўнага набору ў ВНУ МУС, а таксама на некаторыя сельскагаспадарчыя спецыяльнасці. Пры паступленні ў гэтыя ўстановы адукацыі неабходна набраць хаця б 5 балаў, каб падаць дакументы ў прыёмную камісію.

Нагадаем, дыферэнцыраваны падыход у вызначэнні ніжніх парогавых балаў цэнтралізаванага тэставання, неабходных для падачы дакументаў у ВНУ, упершыню быў прыменены ў мінулым годзе.

***Анастасія Салановіч**, БелаПАН.*

# Мінулы люты стаў самым цёплым на Зямлі за ўсю гісторыю назіранняў

**Мінулы люты стаў самым цёплым месяцам на Зямлі за ўсю гісторыю назіранняў, паведамляюць эксперты НАСА на падставе дадзеных, атрыманых з касмічных спадарожнікаў.**

Навукоўцы называюць прычынай гэтага – спалучэнне рэкордна моцнай праявы так званага «эфекту Эль-Ніньё» з працэсамі антрапагеннага глабальнага пацяплення.

Паводле вымярэнняў НАСА, глабальная сярэдняя тэмпература на паверхні Зямлі была ў гэтым лютым на 1,35 градуса вышэйшая за сярэдняе значэнне для гэтага месяца за кантрольны перыяд з 1951 па 1980 год.

А гэта значыць, што тэмпературнае адхіленне ад нормы лютага 2016 года стала самым значным за ўвесь час навуковых метэаназіранняў.

Такім чынам, гэты люты пабіў рэкорд «анамальнасці», які быў усталяваны месяц таму студзенем 2016 года.

Спецыялісты НАСА звяртаюць увагу на тое, што папярэдні анамальна цёплы люты быў у 1998 годзе – таксама ў год вельмі інтэнсіўнага Эль-Ніньё. Аднак тады перавышэнне сярэдняй тэмпературы над нормай склала толькі 0,846 градуса.

***Бі-бі-сі***



# На будаўніцтва завода ў Мёрах нямецкія банкі крэдытуюць 106 млн.еўра

**Старшыня ДКНТ Аляксандр Шумілін сумесна з прадстаўнікамі Віцебскага аблвыканкама, Мёрскага райвыканкама і кіраўніцтвам ТАА «ММПЗ-груп» правёў працоўную нараду па пытаннях будаўніцтва і ўводу ў эксплуатацыю завода па вытворчасці металічнага ліста і белай бляхі (горад Мёры).**

Паводле інфармацыі фундатара, рэалізацыя інвестыцыйнага праекта знаходзіцца ў актыўнай фазе. Плануецца, што 16-17 сакавіка 2016 года ў горадзе Мінску «АСБ Беларусбанк» і нямецкі банк AKA «Ausfuhrkredit GmbH» з удзелам паўнамоцных прадстаўнікоў кампаніі SMS Group GmbH падпішуць міжбанкавую крэдытную дамову для далейшай рэалізацыі гэтага праекта. У наш час з нямецкіх банкаў атрымана пацвярджэнне пра экспартнае крэдытаванне паставак асноўнага абсталявання для абсталявання завода на 106 млн. еўра.

Акрамя таго, інвестарам дасягнутыя дамоўленасці па прамым фінансаванні праекта з вядучымі дзяржаўнымі расійскімі банкамі, якія спецыялізуюцца на падтрымцы дзяржпраграм і выдачы звязаных экспартных крэдытаў.

Прадстаўнікі ТАА «ММПЗ-груп» таксама паведамілі, што з пачатку рэалізацыі праекта ў будаўніцтва завода было інвеставана 5,7 млн.еўра і 1,7 млрд. рублёў (па стане на 29 лютага 2016 г.). За справаздачны перыяд з кампаніяй ТАА «Метпрамбуд» складзеныя кантракты генеральнага падраду на будаўніцтва аб’екта (20 830 000 еўра) і на пастаўку дапаможнага абсталявання і матэрыялаў (48 350 000 еўра і 33 670 000 еўра, адпаведна).



Варта таксама адзначыць, што ў лютым бягучага года пастаўшчык асноўнага тэхналагічнага абсталявання, які вядзе сусветны вытворца абсталявання для металургіі SMS Group GmbH (Нямеччына), увайшоў у капітал праекта (на ўзроўні матчынай кампаніі – MMPZ GmbH (Аўстрыя)

*gknt.gov.by*

# Беспрацоўе ў Віцебскай вобласці за першы месяц 2016 года вырасла на 8%

Па дадзеных камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта на канец студзеня 2016 года ў вобласці афіцыйна лічылася 6400 беспрацоўных.

Такім чынам, узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец гэтага месяца склаў 1,2% ад эканамічна актыўнага насельніцтва Віцебскай вобласці, у эканоміцы якой было занята 514 300 чалавек, паведамляе Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Віцебскай вобласці.

У параўнанні са снежнем мінулага года колькасць зарэгістраванай беспрацоўных вырасла на 500 чалавек, г.зн. прырост складае 8,45%. Пры гэтым у параўнанні са студзенем 2015 года беспрацоўных стала больш на 1700 чалавек, такім чынам, за год беспрацоўе вырасла на 36%.

***Сяржук Серабро.***

# Прыватныя Абвесткі

## Аўтамабілі на продаж:

Аўдзі-80 В3, 1991г, 1.8, мона. Тэл. 8-029 210-85-70 Паставы

ВАЗ-2121 «Ніва», 6млн. руб.Т:8025-543-78-04(л)+

ВАЗ-2106, 1991г.в., чырвоны, стан новага, адзін гаспадар, 29млн.руб. Т.: 8-029-713-18-82

Опель-Кадэт,1,6Д,седан, 6 млн.руб. Т: 8-025-901-97-42(л)+

Опель-Рэкорд, 2,3Д, універсал, 10млн.руб, торг, абмен. Т.: 8-025-543-78-04(л)+

Опель-Вектра В, 2002г.в., 2,0ДТі, сіне-зялёны металік, ёсць усё акрамя скуры, добры стан. Т.: 8-029-511-94-14(мтс)

Опель-Астра, 1999г.в., універсал белы, 1,6Б, 8кл., кошт па дамове, добры стан, ёсць усё акрамя скуры. Т.: 713-55-62(мтс)****

Опель-Корса С, 2001г.в., 1,2Б. Т.: 517-57-37

ФВ-Пасат В3, 1991г.в., 1,9Д, універсал, 14млн.руб., без торга Т:8029-286-65-32(мтс)+

ФВ-Пасат В3, 1993г.в., 1,8Б, універсал, 29,9 млн. руб. Т:8029-892-887-21(мтс)+

ФВ-Пасат В3, 1990г.в., 1,8Б, універсал. Т.: 815-09-44

ФВ Т4 Каравэла, 1998г.в., 2,5ТДі. Т.: 290-60-01(мтс)

ФВ-Пасат, 1986 г, 1.6, бензін. Тэл. 8-029 298-57-90

ФВ-Сантана, 1.8 бензін, поўны працоўны стан, 1-камерны карбюратар, л\дыскі R15, зімовая гума, фаркоп, страхоўка да верасня. Тэрмінова, 12 млн. рублёў, магчымы торг ці абмен з маёй даплатай на іншае аўто. Тэл. 8-029-510-37-97

Форд-Эскорт, 1988г.в., 1,6Д, 5млн.руб. Т:8025-901-97-42(л)+

Форд -Сіера, 1988 г/в, бензін, нядорага. Тэл. 8-025-548-43-77

Пежо-406, 1,8, седан, у добрым стане, кошт па дамове. Т.: 8-033-353-35-05

Рэно-Сцэнік, 2004 г, 1.6, бензін. Тэл. 8-029 595-95-95

Рэно-Лагуна, 2001г.в., 1,9Д, хэтчбэк, залацісты металік, выдатны стан, 75млн.руб. Т.: +37529-766-45-47

Сітраен -С-5, 2006 г/в., 2.0 TD, хэтчбэк. Тэл. 8-029-513-04-38

Фіат-Брава, 2009г.в., 1,4Б, чорны, таніраваны, ідэальны стан, 125млн.руб. Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Фіат-Фіарына, 1992г.в., «каблук», 6млн.руб., торг, абмен. Т.: 8-025-901-97-42(л)+

Мікрааўтобус Мэрсэдэс МВ-100, 1995г.в., грузавы, высокі, максібаза, пераваранены, 29млн. руб., або абмен на л\а або трактар. Т: 8029-286-65-32(мтс)+

Мэрсэдэс-Бэнц, грузавы, 8т г.п., 1992г.в., растаможка 100%, ідэальны стан. Т.:297-70-12(мтс)*

Мэрсэдэс-Спрынтар, грузавы, ізатэрма, 2.9 дызель, 1998 г\в. Тэл. 8-029-550-93-75

Мазда-626, 1996г.в., 2,0Д, г\у, ц\з, сігналізацыя, эл\шкло, эл\люстэрка, 23млн.руб, торг, абмен. Т:813-99-99(мтс)+

Нісан-Альмера, 2002г.в., 2,2ТД, зялёны металік, новы акумулятар, новая зімовая гума, выдатны стан, торг. Т.: +37529-599-03-79(мтс)*

М-412, 1989г.в., сіні. Т.: 302-59-37

Ніва, 2008г.в., цюнінг. Т.: 8-029-517-20-53*

ГАЗ-3110, 1999г.в., 2,4Г\Б, ц\зялёны. Т.: 517-49-80(мтс)

## Куплю машыны, трактары, прычэпы, матацыклы:

**Іншамарку ў любым стане, з любымі праблемамі. Дорага.** УНН 223800390881. **Т:8029-210-31-82** (мтс), 8029-**641-88-36**(в)+

Іншамарку ў любым стане, можна аварыйную. УНП 391054913. Т:8029-518-12-59(мтс), 8029-715-46-92 (мтс)+

Куплю трактар у добрым стане Т-25 або МТЗ-80-82, да яго куплю прычэп, касілку, бульбакапалку, плуг, культыватар і інш. Т.: 8-029-892-87-21(мтс)+

Л\а, мікрааўтобус на запчасткі (разборку). УНН 391054834 Пасв № 391054834 ад 13.08.2014г. Т.:8-029-286-65-32(мтс)+

Іншамарку ў любым стане, можна аварыйную. УНП 391054913. Т.:8029-518-12-59(мтс), 8029-715-46-92 (мтс)+

Куплю дакументы да 1-воснага трактарнага прычэпа 1 ПЭС-2. Т.: 8-033-335-27-36

Куплю аўто да 100млн.руб. Т.: 8-033-342-42-07

Куплю аўтамабіль (іншамарку) у любым стане, з праблемамі ці без, можна аварыйны, забяру сам. Тэл. 8-029-977-80-70, 8-029 770-53-01.

Рабочы матаблок МТЗ. Т.: 591-01-16(МТС)**

Куплю аўта-мотатэхніку. Тэл. 8-033 629-36-92

## Прадам трактары, прычэпы, матацыклы, лодкі:

Скутар «HORS», 2014г.в., чырвоны, 9,9млн.руб. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Трактар МТЗ-82.1 Т.: 8033-696-31-76*

Трактар Т-25. Т.: 519-48-30(мтс)

**Трактар Т-25, у добрым стане, з дакументамі. Т.: 544-91-28(мтс)+9**

Трактар МТЗ-50 з дакументамі і навясным абсталяваннем, 126.000.000 рублёў, торг. Тэл. 8-033 358-35-07

## Здам:

Здам легкавы прычэп 3,0х1,5х1,7,можна на гадзіну,- можна без тэнта, кат. В Т. : 8033-638-7722 (мтс)+4

## Прадам запчасткі:

Да Аўдзі-80, А4, А6, В4, С4, С5, С6; Кіа-Кларус, Шума, Сэпхія;Нісан-Прэм'ера Р10, 11,12, Альмера, Мікра, Х-Трэйл Т-31;Опель-ВектраВ-,Амега В,АстраG,F,Зафіра, Франтэра В, Корса; ФВ-Гольф-ІІ, ІІІ, IV, Джэта-2, 5, Пасат В 3,4,5,6, Т-4; Пежо-106, 206, 307,405, 406, 605, 607, 806; Мазда-626,2,6;Форд-Мандэа 1,3,Транзіт, Фокус, Гэлаксі, Ф'южан; Рэно-19, Меган, Кліа, Лагуна1,2,Сцэнік,Эспайс, Сандэра, Маскат, Логан; Таёта-Карола,Ярыс; Вольва440,460,ВольваV40; S40, XC70; Дэо-Нубіра, Леганза, Маціз; Мерседэс-W 201,W202, 203, W210; Сітраен-Сакса, ZX, Эвазіон, Ксара; Сеат-Таледа,Ібіца,- Кардоба; Міцубісі-Лансер, Галант, Міцубісі ASX; Фіат-Пунта 1, 2,3,Марэа; Крайслер-Неон; Хундай-Поні, Лантра; Шэўрале-Нубіра, 2006 г.в; Ровер-214, 216, 1993г.в.Асартымент запчастак пастаянна змяняецца і павялічваецца мадэльны шэраг аўтамабіляў. Т.:292-99-33(мтс), 338-71-83 (в), 8-029-210-31-82 (мтс) *Ліц. №22380\ 0037920ад23.03.-2004г.выд.ПолацкімРВК да18.05.2013г.ІПФіліпсонС-.І.УНП223800390881*+

Запчасткі б\у з Еўропы, для: Аўдзі-100, 80, А4, А6; Сітраен-Берлінга, Пікасо, С8,Ксара,Эвазіон, Ксанты-я;Фіат-Марэа, Пунта; Форд-Галаксі, Эскорт,Арыён, Фокус, Мандэа; Хундай-Акцэнт; Опель-Астра, Зафіра, Корса, Амега, Вектра; Пежо-206, 307, 406, 605, 806, 807, Партнёр; Рэно-19, Кліа, Лагуна, Меган, Сцэнік;Сеат-Альхамбра,Таледа; ФВ-Гольф,Джэта, Пасат, Шаран, Вента. Асартымент запчастак пастаянна змяняецца. УНП 391054913. Т.:8029-518-12-59 (мтс), 8-029-715-46-92 (мтс),8025-709-51-24(л)+

**Аўтазапчасткі ў г. Глыбокае.** Магазін «Бегемот», вул. Леніна, 87. Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў, АКБ, маслы, кузаўныя запчасткі, шыны. Аўтакрэслы дзіцячыя. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391053348, пасв. № 391053348 ад 19.06. 2009г. Тэл. гарачай лініі. Т:8029-712-93-34(мтс)+

**Аўтазапчасткі ў Шаркоўшчыне (ля аптэкі).** Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў. АКБ. Маслы, кузаўныя запчасткі, шыны, аўтакрэслы дзіцячыя. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 39154834 ПасвN°391054834-ад13.08.2014г. Т.: 8029-876-07-17 (мтс), 8-02154-6-04-62+

Да Мэрсэдэс МВ 100: каробка перадач, стартар, генератар, куліса. Больш нічога няма. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Гуму 245\40\R17 зіма, 30% зносу, замежная,2,5млн.-руб. Т.: 816-09-00(мтс)+

ДЭО-Эсперо, 1996г.в., 1,8і, R14, ёсць усё, па запчастках. Т.: 8-025-901-97-42(л)+

Шыны і дыскі R13-20, акумулятары, аўтамагнітолы, аўтадыванкі. Усё б\у, танна. Т.:8033-648-30-96 (мтс)+

Фіат-Крома, 1991г.в. Фіат-Фіарына, 1992г.в. «каблук», па запчастках. Т.: 8-025-901-97-42(л)+

Опель-Кадэт, Аскона 1,3-2,0Б, 1,6-1,7Д, Амега, Вектра, Рэкорд, Астра, па запчастках. Т:8033-648-30-96(мтс)+

Пежо-309, 1992г.в., 406, 2000г.в., па запчастках. Т.: 8-025-543-78-04(л)+

Форд-Эскорт, Сіера, Транзіт, Фіеста, па запчастках. Т: 8-025-901-97-42(л)+

Ніва, Волга, па запчастках.Т:8025-543-78-04(л)+

ФВ-Пасат В2 па запчастках.Т.:874-99-45(мтс)**

Л\д б\у R15, 4шт., на 5 балтоў, да Мэрсэдэс. Т.: 811-01-78

Аўтапакрышкі б\у 195\65\R15, 185\65\R15. Л\д R15, R16 на ФВ, Опель, Форд. Прычапное да Шаран, Форд, Опель. Т.:8-025-611-10-70(л)*

Гуму летнюю Маршал 195\65\R15. Т.: +37533-323-40-47(мтс)

Дыскі R16 на Опель, на 5 балтоў. Т.: 8-029-713-18-82

Шыны б\у добрай якасці, у добрым стане. Т.: 8-029-710-07-65*

Парогі новыя на Форд-Сіера, танна. Т.: 323-20-15(мтс)

Форд-Транзіт, 8-месны, павышаны, па запчастках. Т.: 8-029-713-44-35*

МВ-100 па запчастках. Т.: 718-59-34

Опель-Астра F, 1996г.в., 1,7Д, Опель-Астра G, 2002г.в., 1,7 Ісузу, універсал, Опель-Вектра,1991г.в., Опель-Кадэт, 1991 г.в., 1,6Д, Опель-Амега, 1991г.в., 2,3ТД, , , ФВ-Пасат В3, 1991 г.в.,1,6ТД, універсал, Форд-Сіера, 1991 г.в., седан. Усё па запчастках.Т.: 892-15-85

Жалезныя дыскі R15 на Опель, Хундай, ФВ, Пежо. Т.: 517-57-37(мтс)

## Куплю запчасткі:

Акумулятар б\у на трактар або а\м МАЗ. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Поршань да ЗАЗ-30, дыяметр 70,5. Т.: 293-74-85(мтс)

Куплю запчасткі да трактара ЮМЗ. Тэл. 8-029 897-35-15 Глыбокае

## Прадам нерухомасць:

Дом у в. Пашкі, Шаркоўшчынскі р-н, на беразе ракі Дзісна,22млн.руб. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Дом у Глыбоцкім р-не, 15млн.руб. Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Дачу ў в. Бушыкі, ля возера, лес, вада,туалет, душавая, мэбліраваная. Т.:297-70-12(мтс)*

Кватэру 3-пакаёвую, пераабсталяваную з 4-пакаёвай, 79м², вул. Міра, мэбліраваная, рамонт, у добрым стане, 1млрд.270млн.руб. Т.: 249-41-04+6

Кватэру 3-пакаёвую ў р-не Міра, 3-і паверх, з рамонтам, аг.пл.69м². Т.: 216-80-93(мтс), 294-67-96(мтс)**

Дом драўляны, в. Лаўцы, Глыбоцкі р-н, 500м праходзіць траса Полацк-Вільнюс, 5км ад Глыбокага, можна пад дачу, магчымы абмен на аўто. Т.:8-029-515-39-99(мтс), 8-029-894-17-33(мтс)***

Кватэру 1-пакаёвую з еўрарамонтам і перапланіроўкай на 2-пакаёвую, 3-і паверх, 2010г.п., 40м², р-н Беразвечча да палікклінікі, Побач прыпынак, магазіны, возера, лес у межах 400м. Т.: +37529-713-74-34, +37529-214-34-55 (пасля 17.00)**

Кватэру 4-пакаёвую з усімі выгодамі ў катэджы на 2-м паверсе. Добры рамонт, зручная планіроўка, газавае ацяпленне, гараж, сад, кошт знізаны. Т.: 8-029-714-44-65

Кватэру 3-пакаёвую ў р-не МКК. Т.: 8-029-591-31-95**

Кватэру 4-пакаёвую, в. Пліса, кошт па дамове. Т.: 8-029-818-47-32**

Участак з пабудовамі па вул. Дружбы, г. Глыбокае. Т.:8-029-890-11-78, 8-033-676-14-03

Два гаражы, р-н вул. Чапаева 6х8м, р-н камбікормавага з-да 5х6м. Т.: 297-70-12**

Кватэру 3-пакаёвую 60м², у р-не МКК. Т.: +37529-691-94-68*

Кватэру 40м², а\г Ломашы, Глыбоцкі р-н. Магчыма растэрміноўка. Т.: 8-029-818-07-50

Дом 12х7м на знос. Т.: 8-02154-3-83-56, 136-93-43(в)



* ЗАЎВАГА: калі ў абвестцы не пазначаны код горада, уладальнік тэлефоннага нумару знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне.

**Отделка**
балконов и лоджий
*под ключ*
(утепление, обшивка сайдингом, полы, потолки и т.д.)
**доставка строительного материала**
Тел.: 8 (029) 849-29-40.
ИП Бурак А.К. УНП 391620162

**Бригада строителей выполнит любые строительные работы,**
плюс – доставка строительных материалов
Тел.: 8 (029) 849-29-40.
ИП Бурак А.К. УНП 391620162

## Прадам іншае:

Бочка пад паліва на 200л, 250тыс.руб.
Т:8029-28665-32(мтс)+

Ёмістасць пад каналізацыю. Магчыма дастаўка і ўстаноўка.
Т.: 595-48-68(мтс)*

**Прычэп гною з дастаўкай. Прычэп торфу з дастаўкай.**
**Т.: 514-21-76(мтс)+9**

## Куплю іншае:

Бочку 6-8 кубоў, пад каналізацыю.
Т:8029-286-65-32(мтс)+

Станок такарны.
Т.: 718-59-34

## Пасажырскія перавозкі:

**У Мінск і з Мінска**.
Хутка,зручна! ІП Шабан В.В. Ліц.Мінтранспарта№3-32415 ад 16.12.2012.да 16.12.2022.
Т:8033-646-21-99(МТС), 8029-190-21-99(В)+2

**Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр**. ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад16.12. 2012 да 16.12.2022г.
Т.:8033-646-21-99 (МТС), 8-029-190-21-99(В)+2

Адвязу людзей у Вільнюс. Ліц. 02190\3-73793 ад 20.03.2015г №22-ЛІ выд. Мін. транспарта і камунікацый РБ.
Т.: 8-029-120-82-52(в)+

## Грузаперавозкі:

Грузаперавозкі па РБ: МАЗ, тэнт 40 кубоў, 10т; Рэно з адкрытым паўпрычэпам, 13,5м, 20т; УРАЛ-лесавоз з маніпулятарам; ФВ мікра-аўтобус, ізатэрма, 14 кубоў, 1,5т. УНН 391054834выд.13.08.2014г Глыбоцкім РВК.
Т.:8029-286-65-32(мтс), 8029-892-87-21(мтс)+

Грузаперавозкі папутныя, зборныя з Глыбокага ў Мінск, з Мінска ў Глыбокае, любой вагі і аб'ёму (ад 1кг да 20т). УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.
Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Грузаперавозкі да 5т па Глыбокаму і РБ, здымны тэнт, памеры кузава 3,8х2,2х2,1. Усе віды загрузак. Акажу дапамогу ў пагрузцы і разгрузцы. УНП 391058602.
Т.: 8-033-330-64-74, 8-033-646-36-40 (Уладзмір)+15

Грузаперавозкі па Глыбокаму і РБ. УНП 391536141.
Т.: 210-51-35(мтс)

Грузаперавозкі да 2.5 тон, да 20 м/куб. УНП391032863 ПУП Докшыцы-Экспарт.
Тэл. 8-029 599-25-93

## Паслугі:

Адкачаю каналізацыю. УНП 390271248.
Т.:8029-713-36-35+9

Паслугі прычэпа: вываз будаўнічага смецця, прывязу гравій, пясок і многае іншае.УНП 390271248.
Т.: 8-029-713-36-35+9

Паслугі трактара-пагрузчыка, усе віды земляных работ, траншэі, сажалкі і інш. Наяўны і безнаяўны разлік. УНН391531670.
Т.: 714-44-99(мтс)+6

Вырашылі купіць аўтамабіль і сумняваецеся, біты ён ці не біты? Вызначу электронным таўшчынямерам: фарбаваны, не фарбаваны або падфарбаваны аўтамабіль! УНН 391054834 выд. 13.08.2014г ГлыбоцкімРВК.
Т.:8029-120-82-52(в)+

Прыганю аўто пад заказ з Расіі, Літвы. Праверу электронным таўшчынямерам: біты\не біты, фарбаваны\не фарбаваны\падфарбаваны. УНН 391054834 выд. 13.08.2014г Глыбоцкім РВК.
Т.:8-029-120-82-52 (в)+

Рэстаўрацыя ваннаў, эмаль, колер на выбар. УНП 391240879 ІП Пазняк Н.Н.
Тэл. 8-033-306-29-89, 8-02156-5-38-59* Глыбокае.

Рамонт і аддзелка кватэр і дамоў. Укладка керамічнай пліткі, мантаж гіпсакардона, аркі, абшыўка ПВХ, МДФ, вагонкай, сайдзінгам, укладка падлогі, бетонныя работы, заліўка сцяжкі. штукатурныя работы, шпаклёўка, вадкія шпалеры і многае іншае. УНП 391534838.
Т.:+37529-299-69-16 (мтс), +37529-944-63-93(в)*

Будаўнічыя работы: гіпсакардон, ламінат, устаноўка дзвярэй, укладка пліткі, кровельныя работы і інш. будаўнічыя работы.
УНП 391076644.
Т.: 896-50-14(мтс)

Вырабляем, дастаўляем, манціруем каналізацыйныя кольцы, фундаментныя блокі. Аказваем паслугі экскаватара, самазвала, амкадора. УНП 390527904.
Т.: 8-029-897-35-15+5

Прымаем заказы на будаўніцтва недарагіх дамоў з асабістых матэрыялаў, рознай ступені гатоўнасці (ад фундамента да здачы пад ключ). У наяўнасці тэхніка, аўтатранспарт. УНП 390527904.
Т.: 8-029-897-35-15+5

Выканаю будаўнічыя работы: бетонныя, заліўка сцяжак, ганкаў, фундаментаў, блочныя, каркасна-шчытавыя збудаванні: веранды, гаражы, тэрасы, прыбудовы пад ключ, агароджы з каменя, кровельныя работы. Пасв. 391534031.
Т.: 816-06-74

Вядучы вашага свята. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы. СВ0201380 Шчаўкуноў С. В.
Тэл. 8-029-595-56-85 Сяргей

Кваліфікаваны спецыяліст выканае: рамонт, замена і ўстаноўка сантэхабсталявання; зборка, устаноўка душавых кабінак і інш.; мантаж ацяплення, вадаправода і каналізацыі. Рамонт, падключэнне і ўстаноўка эл\абсталявання. Пластык, ламінат і інш. Хутка і якасна! УНП 391532784, ІП Саўліч В.В.
Т:+37529-218-38-66(мтс)**

Выканаю зварачныя работы, мантаж агароджы з металу. Будаўнічыя работы: сайдзінг, ламінат, пластык, МДФ, заліўка сцяжак. УНП 391532784.
Т.:+37529-218-38-66 (мтс)**

Паслугі электрыка. УНП 391532784.
Т.:+37529-218-38-66 (мтс)**

Устройства дахаў, аддзелачныя работы (гіпсакардон, плітка, караед). Падыманне дамоў. УНП 391075622.
Т.: 8-029-717-29-41(мтс), 8-044-747-15-94(в)***

**Устройства наліўных і 3Д падлог. Падыходзяць для кватэр, офісаў, магазінаў, гаражоў. Не баяцца вільгаці і хіміі. УНП 391075622.**
**Т.: 8-029-717-29-41(в), 8-044-747-15-94*****

**Паслуга «Дамашні майстар»: 100 работ па доме і офісу**.***Эл\мантажныя работы***: мантаж і замена эл\праводкі, свяцільнікаў, эл\лічыльнікаў, аўтаматычных выключальнікаў, разетак, выключальнікаў, эл\званкоў. ***Сантэхнічныя работы***: замена і мантаж труб вадаправода і ацяплення, лічыльнікаў вады, змяшальнікаў, кранаў; мантаж эл\воданагравальнікаў, унітазаў, умывальнікаў, мыек, душавых кабін.**Іншыя паслугі:** устаноўка і падключэнне бытавой тэхнікі, зборка мэблі, навешванне карцін, люстэрак і інш. ІП Жук В.І. УНП 391530077 ад 18.12.2014г.
Т.:8029-816-03-64, 8-029-379-77-94***

**Паслуга «Дамашні майстар»** Выканаю аддзелачныя і мантажныя работы: штукатурка, укладка пліткі, ламіната, ліналеума, устройства перагародак з гіпсакардона, аддзелка сцен і патолкоў ПВХ, МДФ. Дапамога ў выбары матэрыялаў. Дастаўка. ІП Жук В.І. УНП 391530077 ад 18.12.2014г.
Т.:8029-816-03-64, 8-029-379-77-94*

Устанаўлю, адрамантую дах. Укладка блокаў. Абкладу дом, франтоны сайдзінгам. УНП 391535012.
Т.: 511-47-13(мтс)

Выкананне любых будаўнічых прац. Аздабленне, праца з бетонам. Праца па дамове. УНП447987514 ІП Гарбачоў Д.А.
Тэл. 8-025-938-67-14, 5-07-78

Рубка зрубаў, лазняў, альтанак, дамоў. У наяўнасці, пад заказ. Са свайго матэрыялу і заказанага. Праца па дамове. УНП447987514 ІП Гарбачоў Д.А. Тэл. 8-025 938-67-14, 5-07-78

Устаноўка, рамонт дахаў любой складанасці, блокі, сайдзінг і іншыя будаўнічыя работы. УНП 391051901.
Т.: 893-32-43(мтс)

Любыя будаўнічыя працы плюс унутранае аздабленне пад ключ. Стаж, якасць, гарантыя. УНП 391242537 ІП Іваноў А. А.
Тэл. 8-029-718-97-04, 8-029 946-46-52 Шаркоўшчына

Выканаем аддзелачныя і мантажныя будаўнічыя работы: укладка пліткі, штукатурка, заліўка сцяжкі, чарнавая кладка, шпаклёўка і г.д. Дастаўка матэрыялаў, безнаяўны разлік.

Кошты зніжаны. УНП 391056467.
Т.: 533-65-42(мтс)****

Адкачка каналізацый прыватным асобам. УНП 391555371.
Т:509-15-71(мтс)****

Распілую, пасяку, складу, нарыхтую дровы, спілую дрэвы, кусты, валка лесу. Кладка: ламінат, гіпс, МДФ, дах, сайдзінг, іншыя працы. Працуем з безнаяўнасцю.
УНП 391056375 ІП Паўловіч П.В.
Тэл. 8-029 249-63-68, 2-82-11

## Шукаю працу:

Устанаўлю адкосы любой складанасці. Дастаўка матэрыялаў. Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душавую кабіну, бязбашанку,ПВХ, ламінат, плітка, дзверы, сантэхніка, электрыка. Дастаўка матэрыялаў, дапамога ў выбары.Устанаўлю, адрамантую дах: шыфер, андулін. Без шкодных звычак. Т.: 595-48-68+

Рамонт аўтабампераў.
Т.: 892-15-85

Шукаю работу бухгалтара, веданне 1С, вопыт работы. Можна не бухгалтар.
Т.: 614-18-56(мтс)

Шукаю працу масажыста. Дзіцячы і дарослы масаж.
Т.: 8-029-717-69-38 (мтс)**

Шукаю працу вадзіцеля. Усе катэгорыі.
Т.: 625-01-11(мтс)

Шукаю працу рознарабочага (будаўніцтва).
Т. 5-40-01,8-029-894-47-69

Жанчына шукае працу (шпакляванне, паклейка шпалер, афарбоўка).
Тэл. 2-94-92, 8-029 213-40-13

## Прапаную працу:

На часовую работу патрабуецца дзяўчына - памочнік мэнэджара. УНН391053348.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Патрабуецца рознарабочы на будоўлю,грузчык. У арганізаваных брыгадах «шабашнікаў» і са шкоднымі звычкамі няма патрэбы. УНН 391054834 выд. 13.08.2014. Глыбоцкім РВК. Т: 8029-892-87-21, 8029-286-65-32(мтс)+

Патрабуецца майстар па зборцы (насадцы) і ўстаноўцы драўляных дзвярэй.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

Патрабуецца майстар абкласці пліткай ванну, туалет.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

У магазін «Склеп на Міры», г. Глыбокае, патрабуецца прадавец.
Т.: 8-029-714-24-78

На пастаянную работу патрабуецца повар у прыдарожнае кафэ в. Ломашы.
Т.: 590-28-81(мтс)

Патрабуецца трактарыст на трактар ЮМЗ (катэгорыя В). Тэл. 8-029-897-35-15 Глыбокае

## Згуба

Згублены тэлефон «Самсунг В5722» чорнага колеру (без «сімкі») просьба вярнуць за ўзнагароду.
Т.: 891-06-90(мтс)*

Знойдзены ключ ад Сітраен.
Т.: 290-59-08

## Тавар, набыты ў інтэрнэт-краме, можна будзе вярнуць на працягу сямі дзён

**Тавар, набыты ў інтэрнэт-краме, можна будзе вяртаць на працягу сямі дзён. Такія змены збіраюцца ўнесці ў закон «Аб абароне правоў спажыўцоў».**

– Сёння вядзецца праца Нацыянальным цэнтрам заканадаўства і прававых даследаванняў сумесна з Мінгандлю і іншымі зацікаўленымі па ўнясенні зьмяненняў і дапаўненняў у закон «Аб абароне правоў спажыўцоў», – распавяла начальнік упраўлення абароны правоў спажыўцоў і кантролю за рэкламай Мінгандлю Ірына Барышнікава.

Паводле яе слоў, спецыялісты хочуць увесці паняцце «перыяду ахаладжвання» тавараў, набытых у інтэрнэце, па пошце і г.д.

– Мяркуецца, што на працягу 7 дзён можна будзе вярнуць любы якасны тавар, – адзначыла Ірына Барышнікава.

Калі змены ў закон будуць прынятыя, вярнуць можна будзе нават якасныя складанатэхнічныя тавары (цяпер гэта немагчыма).

*news.tut.by*

## Усміхніцеся

Сын спрашивает у отца:
– Пап, а где у нас фонарик?
– А зачем тебе фонарь?
– На свидание иду.
– Я, сынок, на свидание
в твои годы без фонарика
ходил.
– Ну, и посмотри, что ты в
темноте выбрал!..

***

Муж, мрачный как туча, возвращается домой из больницы, где проведывал тещу.

Жена встречает его у дверей.

Ж: – Как дела у мамы?

М: – Твоя мать здорова, как лошадь, скоро выйдет из больницы и будет жить у нас!

Ж: – Не понимаю... Вчера врач сказал мне, что она при смерти.

М (зло): – Не знаю, что он сказал тебе, а мне он велел готовиться к самому худшему.

***

– Диетолог – пациенту:

– Значит, так, вот ваша диета: в день 300г тушеных кабачков, 400г зелени цикория и сколько хотите листьев салата.

– Доктор, а колокольчик на шею нужно вешать или можно так пастись?

***

Один студент решил подшутить над другим. Покрасил стул.
Второй заходит и прямо с порога:
– Колян, я...
Первый ему:
– Да ты сядь сначала, – и на стул показывает.
А этот опять:
– Колян, я хотел тебе сказать...
Первый:
– Да ты сядь, не стесняйся.
Второй сел. Первый хихикает:
– Ну, теперь говори.
– Колян, я просто хотел сказать, что твои джинсы надел…

***

Старушка на рынке:
– Почём мясо, сынок?
– А у тебя валидол с собой?

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Полуостров в Африке | | | | | | | Обращение к женщине в Скандинавии | Полевое фортификационное укрепление | Поэма Андрея Вознесенского |
| Отпрессованный сок винограда | | Дерево семейства сумаховых | | Собачий телесериал | | Фильм Резо Эсадзе | | | |
| Тригонометрическая функция | | | | | | Ростовщические проценты в Др. Руси | | | |
| Денежная помощь | | Широкое женское пальто | | Заем | | | | | |
| | | | | | | | Химический элемент | | Носитель наследственности |
| | Государство в Азии | | Хоккей с мячом на льду | | Группа островов в Корейском проливе | | | | |
| | | | | | | | "Дафнис и Хлоя", древнегр. писатель | Наемные хлопальщики | |
| | Выходка | | Танцовщица Айседора ... | | | | | | |
| | | | | | | Родной остров Одиссея | | Шифр | Город на реке Евфрат |
| | Инфекционное заболевание | Середина сложенного листа | | Древний шумерский город | | | | | |
| | | | | | | Место для ставки в азартных играх | | | |
| | Помещение в доме у древних римлян | Показная удаль | | | | | | | |

**Ответы на сканворд № 10**
**По горизонтали:** «Моряк». Сак. Гандикап. Пай. Скопидом. Урон. Кашпо. Этна. Текст. Лук. Ржа. Ротару. Йод. Лал. Смородина. **По вертикали:** Миасс. Рядно. Кокни. Суппорт. Край. Амон. Кошт. Прокурор. Дуэт. Экзарх. Нара. Пелайо. Скудо. Жбан. Ли. Ла.

## Гараскоп на Новы 2016 год

**АВЕН.** Вашы поспехі і дасягненні - гэта вельмі пахвальна, але прыйшоў час рухацца наперад, да новага і вельмі цікавага. Не бойцеся перамен ці вяртання да мінулага. Цяпер самы час для прымірэння і аднаўлення адносін. У канцы тыдня ёсць верагоднасць з'яўлення ўплывовага заступніка. Прыемныя падзеі могуць адбыцца з вашымі дзецьмі.

**ЦЯЛЕЦ.** На гэтым тыдні зоркі абяцаюць багацце паездак і кантактаў, што можа вельмі змарыць вас сваёй інтэнсіўнасцю і напружаным рытмам. Вам прыйдзецца разлічваць толькі на ўласныя сілы. У пачатку тыдня самы час заняцца цяжкай справай, якую вы ўвесь час адкладалі. Да сярэдзіны тыдня вы набярэце добры працоўны тэмп, паспрабуйце не збівацца з яго як мага даўжэй. Адным з самых складаных у эмацыйным плане можа апынуцца вечар выхаднога дня.

**БЛІЗНЯТЫ.** Тыдзень поўны разнастайнымі падзеямі, мітуслівы і непрадказальны. Пажадана адкласці сур'ёзныя справы на наступны тыдзень, пакуль жа займіцеся творчасцю і рашэннем асабістых праблем. Любы чалавек парадуе вас атрыманнем прыбытку і поспехамі ў прафесійнай сферы. Цяпер самы час будаваць сумесныя планы на будучыню.

**РАК.** Пагоня за сіняй птушкай поспеху, нарэшце, будзе мець поспех, што дазволіць вам паверыць у свае магчымасці. Ваша ўдарная праца пачынае прыносіць плён, настаў час атрымання прэміі. Ваш аўтарытэт на высокім узроўні, навакольныя будуць прыслухоўвацца да вашага меркавання. Але не задзірайце нос, інакш на гэтай глебе магчыма канфліктная сітуацыя з начальствам.

**ЛЕЎ.** На гэтым тыдні прыйдзецца разлічваць толькі на свае сілы і ўменне хутка мяняць планы. Вакол вашай персоны могуць закруціцца інтрыгі. Зрэшты, у нейкай ступені вы самі будзеце ў гэтым вінаватыя: няма чаго спрабаваць пракрасціся ў чужыя таямніцы, вам бы свае ўтрымаць у сакрэце. Лічыцеся з інтарэсамі дзелавых партнёраў, не стаўце свае амбіцыі ў аснову. Зараз не перашкодзіць заняцца сваім здароўем. Схадзіце да стаматолага, нарэшце!

**ПАННА.** Надыходзячы тыдзень раптам можа вас уцягнуць у вір падзей: актыўную перапіску з дзелавымі партнёрамі, сустрэчы з рознымі цікавымі людзьмі, кароткатэрміновыя паездкі. Ужо ў пачатку тыдня вам неабходна пачаць рэалізоўваць свае планы, інакш вы можаце ўпусціць спрыяльны момант для іх далейшага развіцця. Другая палова тыдня можа аказацца адным з самых цяжкіх часоў тыдня ў псіхалагічным плане. У канцы тыдня паспрабуйце надаць хоць крыху ўвагі свайму дому, там даўно пара навесці парадак.

**ВАГІ.** На гэтым тыдні на працы могуць узнікнуць дробныя, лёгка вырашальныя, але якія займаюць шмат часу непрыемнасці. Не варта з-за іх губляць упэўненасць у сваіх уласных сілах і ўменні. У сярэдзіне тыдня вы будзеце забяспечаны сімпатыяй і падтрымкай сяброў і аднадумцаў. Шануйце і паважайце сваю працу, дэманстрацыя самакрытычнасці на гэтым тыдні прывядзе толькі да таго, што вам сядуць на шыю, адначасна даўшы зразумець, што вы дрэнна спраўляецеся са сваімі абавязкамі.

**СКАРПІЁН.** Надыходзячы тыдзень зменіць да лепшага ваша матэрыяльнае і грамадскае становішча. Будзьце разважлівыя, менш гаварыце і будзьце гатовыя захоўваць таямніцы. У пачатку тыдня ў вас з'явіцца шанец не толькі разабрацца з праблемамі мінулага, але і прасунуць свае справы на новы ўзровень. На працы вас цэняць і гатовыя добра плаціць за вашыя ідэі і таленты.

**СТРАЛЕЦ.** Вы зараз - творца свайго шчасця, не выпусціце гэты залаты час. Вы зможаце апынуцца на грэбні хвалі, калі таго шчыра пажадаеце. Не распыляйцеся, пастаўце сабе пэўную мэту, і імкніцеся да яе дасягнення. У пачатку тыдня верагодная сустрэча з сябрам, якая падорыць вам новыя магчымасці. У выхадныя зрабіце прыемны падарунак сваім блізкім.

**КАЗЯРОГ.** Пераадолець якія ўзнікаюць непрыемнасці і перашкоды дазволяць душэўны спакой і ўпэўненасць у правільна выбраным напрамку і ўласных сілах. У дзелавых пытаннях не давярайце усім без разбору: патрабуйце дакументальнага пацверджання абяцанням. У канцы тыдня пастарайцеся правесці вечар з каханым чалавекам, інакш у вас могуць з'явіцца падставы для рэўнасці. У выхадныя дні не варта дзяліцца сваімі планамі і таямніцамі нават з самымі блізкімі людзьмі.

**ВАДАЛЕЙ.** На гэтым тыдні вы можаце стаць прыкметнай постаццю ў сябе ў офісе. Вашы навыкі і вопыт будуць карысныя вашым калегам, вы лёгка заваюеце павагу начальства. Але для гэтага прыйдзецца вельмі шмат працаваць у розных галінах, каб стаць незаменным супрацоўнікам. А вось бытавыя і асабістыя справы пакуль прыйдзецца адсунуць на задні план.

**РЫБЫ.** Пажадана трымацца далей ад усялякіх авантур, звязаных з лёгкім узбагачэннем і азартнымі гульнямі. Зараз адказны перыяд для прафесійнага росту і звязаных з ім службовых і матэрыяльных дасягненняў. Калі не сядзець склаўшы рукі, то можна шмат чаго дабіцца. Вам лёгка даюцца новыя веды, так што ёсць усе шанцы вывучыць замежную мову ці здаць экзамен у аўташколе.

«Вольнае Глыбокае»
**Заснавальнік:**
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 15.03.2016 г. у 20[50]
Наклад 1600 паасобнікаў

**Рэдактар:**
Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 2-46-14;
**E:mail: vglybokaye@tut.by**
Адрас для допісаў:
**211800, г. Глыбокае, п/с №3**
**Замова 162**

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.

Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае